

## Philips 14PT1686 – Мой Тэлевізар!

Мой новы тэлевізар Philips ператварыў кухонныя клопаты ў сапраўднае сьвята. Можна слухаць FM-радыё, займаючыся прыгатаваньнем ежы. Можна глядзець фільм ці сваю ўлюбёную перадачу, атрымліваючы асалоду ад якасьці выявы і смачнай вячэры.

І можна выбраць свой улюбёны колер: аметыст, жэмчуг, тытан ці біруза.

Атрымлівайце асалоду!



*Изменим жизнь к лучшему.*



**PHILIPS**

## ДВА СЛОЯ ПЛЮС ВАРЕНЬЕ – ДВОЙНОЕ НАСЛАЖДЕНИЕ!




Марозіва ад ЗП "Морозпродукт" ТАА. Тэлефоны для оптавых пакупнікоў (+375 017) 285-85-99, 285-88-99 Тавар сэртыфікаваны

# СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

abrasi

ТЭМА

*тваё лета*

LOO

levi's

551 Bu

Levi's

CD-MODEL`2002

*шчасьце ёсьць!!!*

**30 ЧЭРВЕНЯ 21:00**

СТАДЫЁН "ДЫНАМА" г. МЕНСК
У РАМКАХ СУСЬВЕТНАГА ТУРНЭ

**ГУРТ a-ha**

КАНЦЭРТ АДБУДЗЕЦЦА ПРЫ ЛЮБЫМ НАДВОРʼІ

З ПРАГРАМАЙ "LIFELINES"

Тэлефоны для даведак у Менску: (017) 206-64-92, 227-87-16 (аўтаадказчык)

intercars | KIKO International Ltd | Levi's | МІЛАВІЦА | Step by Step | АльВеНа страховая компания | EXTRA
ОЛИМП выставочный центр | АлВит | ЕВРОДЕНТ | Countdown | CAMELOT | ELITE



## Samsung прэзэнтуе новыя тэлефоны з паліфанічным гучаньнем

Сваімі выключнымі гукавымі здольнасьцямі яны абавязаныя ўбудаванаму музычнаму працэсару, які ўзнаўляе гучаньне 16 інструмэнтаў адначасова. Ня толькі музыка, але і сьпевы птушак, перазвон званочка гучаць максымальна рэалістычна. Блакітная падсьветка дысплэя, разнастайныя колеры індыкацыі выкліку, памяць на 250 нумароў, галасавы набор і дыктафон робяць тэлефанаваньне прыемным.




КУПОН

N600/620



З гэтым купонам вы атрымаеце фірмовы падарунак пры пакупцы тэлефона **N600/620:**

| | |
|---|---|
| МОБИЛЬНЫЙ ЦЕНТР, Прытыцкага, 38 | 255 82 13 |
| МИР СВЯЗИ, Няміга, 8 | 226 18 22 |
| ПРАЙМСТИЛЬ, Старажэўская, 8 | 268 76 57 |
| ОРБИТЕЛ, Рэвалюцыйная, 7а | 206 36 36 |
| МАЧТА, пр-т Скарыны, 44 | 284 30 14 |
| Интэрнэт-крама | www.gsm.shop.by |
| маб. тэлефон | 0296 02 65 75 |

АФІЦЫЙНЫ ДЫЛЕР VELCOM

ГЛОБАЛКОМ

УСЯЛЯКІЯ ТЭЛЕФОНЫ GSM, ПРОДАЖ і ПАДКЛЮЧЭНЬНЕ

[Сувязь Усталяваная]

Ліцэнзія N23968 ад 21.05.2001, сапр. па 21.05.2006, выд. МДМК

тэл. 223 11 41
8 029 623 11 41

Менск. Цэнтар. Мэтро Кастрычніцкая/Купалаўская, пл. Свабоды 4

PHILIPS Club

ТЭЛЕФОН ГАРАЧАЙ ЛІНІІ:
276-49-95



**Студэнцкая Думка № 4-5 (76-77) 2002 г.**

**Заснавальнік:** грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"
**Выдавец:** рэдакцыя "Студэнцкай Думкі"

**Галоўны рэдактар**
Ірына Віданава

**Рэдактары**
Мікола Шакель
Сяргей Сахараў

**Стыль і карэктура**
Алесь Кастыка

**Вёрстка** Mikalaus

**Малюнкі** ALK & ISIK

**Дызайн вокладкі**
Уладзімер Пакацілаў

**На вокладцы:**
Тацяна Кудашкіна, пераможца конкурсу "CD-MODEL'2002"
Прычоска і макіяж - Адзіна Курбанісмаілава (салён прыгажосьці ELITE_2)
Антураж - крама LEVI'S
Фатограф - Павал Пятрышчаў



**Адрэса рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
Тэлефон рэдакцыі: (017) 213-22-19
Пэйджэр : 206-75-75, абанэнт "ДУМКА"
Адрэса для допісаў: 220030, г. Менск-30, п/с 90
**Адрэса ў Інтэрнэце:** www.studumka.com
**E-mail:** studumka@tut.by



Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.



Меркаваньні аўтараў часопісу не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя дадзеныя строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за рознага кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.
Правамі на матэрыялы валодае рэдакцыя часопісу "Студэнцкая думка". Пры перадрукоўцы матэрыялаў спасылка абавязковая.
Тэксты, якія не замаўляліся, рэдакцыя не вяртае.



Надрукавана ў ТАА "Палікрафт", 220113, г. Менск, Я.Коласа, 73.
Ліцэнзія ЛП № 394.
Фармат 60x84 1/8
Папера афсэтная 80 г/м2
Падпісана ў друк __________
Замова № ______________
Наклад 3300 асобнікаў
Кошт свабодны.


Неўпрыкмет падабралася цёплая пара году. У арыфмэтычнай прагрэсіі зьнікаюць элемэнты зьнешняга ўбраньня з вулічных пэрсанажаў абодвух полаў. Паралельна гэтаму працэсу, толькі ў прагрэсіі геамэтрычнай, выпараюцца жаданьне працаваць і імкненьне хоць да якой-небудзь дзейнасьці.

Таму, бадай, зоймемся архісублімаваным сымуляцыяй, спалучанай зь віртуальнай фізычнай і рэальнай разумова-эмацыйнай /!/ актыўнасьцю. Бяры "CD" і знаёмся з плянамі на **"ТВАЁ ЛЕТА"**.

Яно /памянёнае лета/ можа выглядаць па-рознаму. Можна, як **ALES'ka**, 59,5 хвілінаў у гадзіну прысьвячаць апантанаму развучваньню і (з часам) віртуознаму выкананьню **гарачых танцаў**. Магчыма /але пазнавата/ заняцца пошукам фінансаў з намерам здаць іх потым у лічаныя сэкунды за квіток у Японію/Паўдн.Карэю альбо /нарэшце/ за новы добры тэлебачык, каб глядзець па ім стары добры **футбол**ік. Можна пайсьці рыхтавацца да сэсіі ў якую-небудзь нацыянальную бібліятэку і папоўніць сваёй фактурай шыкоўны **бібліятэчны антураж** ад **Леніна і Джэці**. Не апошні варыянт: не вылазіць з крамаў і буцікаў, марна спрабуючы прыкінуцца так, каб look адпавядаў усім **дзевяці патрабаваньням моды** на гэты сэзон. А можна проста крыху паныць - маўляў, **няма куды ў адпачынак падацца**: там бамбяць, тут стафілакок. Што зь нечаканым посьпехам і робіць наш **beau monde**.

Кожнаму сваё. Зыходзячы з маштабнасьці разгортваньня плянаў на гэтае /*твaё!*/ лета, старадаўні афарызм можна пасьпяхова перафармуляваць: кожнаму - "CD".

А ў гэтай "CD", апроч акрэсьленых вышэй няпэўнымі мазкамі ці нават не памянёных па прычыне татальнага недахопу працоўнай плошчы тэматаў, ты знойдзеш вынікі конкурсу **"CD-MODEL'2002"**, па прачытаньні якіх мінімум дзьве крылатыя сэнтэнцыі - "Шчасьце ёсьць!" і "Гэта так проста - паехаць у Парыж!" - ужо ніколі не пакінуць твайго думальна-разважальнага апарату.

Перадавай, дарэчы, яму прывітаньне.

## WWW.STUDUMKA.COM
### твая *думка* ў інтэрнэце!

**Набываючы часопіс "CD", патрабуй дысконтную карту INTERCARS. Па ёй ты атрымаеш зьніжкі на квіткі "INTERCARS" - у дадатак да тых зьніжак, якія ўжо існуюць.**

**У гэтых месцах ты знойдзеш "Студэнцкую Думку":**

- аўтобусы "INTERCARS" і офіс "INTERCARS" (Менск, пр. Машэрава, 19, оф. 1-6)
- крама "LEVI'S" (Менск, пр. Скарыны, 48)
- крама "ПОДЗЕМКА" (Менск, пр. Скарыны, 43)
- крама "EXTRA" (Менск, вул. Танкавая, 3)
- крама "БУНКЕР" (Менск, вул. Казлова, 14)
- крама "CAMELOT" (Менск, пр. Скарыны, 44)
- крама "МИСТЕРИЯ ЗВУКА" (Менск, вул. Няміга, 12)




10

3[4]

8

4

ДЭВІД ЛІНЧ

2[2]

па дарозе на

14



13

16

7

30

26



2



## тэма



## CD-MODEL'2002



## пункты



## канТЭКСТ



## павучкі



## сідзічка

# "ЯКІ ТАКІ КОНКУРС?.."

CD-MODEL'2002

**Тое, што ў галовах беларускіх мужчынаў курсіравала ў якасьці здагадкі, падчас правядзеньня конкурсу CD-MODEL стала відавочным. Стройныя калёны слаўных беларускіх дачок і сясьцёр адкідалі ўсе сумневы: насельніцы краіны няпужаных партызанаў і блакітных азёраў у генах трымаюць сакрамэнтальнае 90*60*90.**





*Танюша Кудашкіна*, пераможца CD-MODEL'2002

Таму і ў страшным сьне нельга прысьніць, што перажывалі супрацоўнікі METROPOLITAN MODEL AGENCY і CD, калі сярод самых пекных паненак выбіралі тую адзіную, якая паедзе ў Парыж. Але ж выбралі!

***Танюша КУДАШКІНА*** ідэальна пачуваецца ва ўмовах створанага ў краме LEVI'S невялічкага кавалку выраю падчас фотасэсіі і па-дзіцячы захоплена выбірае сабе "што-небудзь чоценькае" ў EXTRA. Першы курс Беларускага камэрцыйнага інстытуту кіраваньня і не такая блізкая мэта - зрабіцца эканамістам-мэнэджэрам - акрэсьліваюць нешта больш цікавае і пэрспэктыўнае на сёньня: паездку ў Парыж і ўдзел у кастынгу сусьветна вядомай агенцыі.

***– Таня, і што зьбіраесься рабіць – так і хочацца табе зрабіцца эканамістам?***
*- М-м-м-, зараз - ня дужа. Вось цяпер, дзякуючы CD і METROPOLITAN MODEL AGENCY, усур'ёз падумваю пра кар'еру фотамадэлькі... Я ж ужо здымалася для рэклямы марозіва "ГОША". Я гляджу, у вас тут іхная рэкляма... На здымках я тады марозіва гэтае добранька пакаштавала - горла балела тыдзень... Так што праца фотамадэлі ў мяне цяпер стала асацыюецца з марозівам.*

***– А пра конкурс наш ты як даведалася?***
*- Стаяла на прыпынку "Плошча Свабоды", чакала тралейбуса. Убачыла плякат, запісала тэлефон агенцыі. І забылася. Нумар знайшла праз месяц, ужо і ня памятала, што гэта конкурс. Доўга думала: ісьці - ня йсьці? Хацелася паспрабаваць свае шанцы ў агенцыі. Патэлефанавала, падышла, сфатаграфавалася... Нават і ня верыла, што нешта атрымаецца. А праз тыдні паўтары мне тэлефануюць: "Вы сталі пераможцай конкурсу!" "Якога такога конкурсу?" - пытаюся. Доўга мне пасьля тлумачылі...*

Студэнтка Кудашкіна сёньня ўвесь свой час аддае вучобе, зрэдку - разводзцы рыбак (у сэнсе, гадоўлі, а ня кіданьню на бабкі) і другому дзіцяці ў сям'і - сабачку Чапу (чы-хуахуа). Апошнім часам захапілася конным спортам. "Пасьля трэніроўкі так баляць ногі, што ледзьве дапаўзаю дадому".

Улетку Тацяна едзе ў Парыж. Там яе чакае ня толькі прыемны адпачынак, але і праца: фотасэсіі для агенцыі METROPOLITAN MODEL AGENCY.

*- Насамрэч я яшчэ дагэтуль ня веру, што паеду. Ужо і запрашэньне атрымала, а ўсё яшчэ тармажу неяк...*

***– Там жа давядзецца яшчэ і працаваць. Агенцыя ж надзвычай сур'ёзная... Не баісься?***
*- Не-а! Працы я не баюся. Галоўнае, каб было ў кайф.*

***– Чым думаеш займацца ў Парыжы?***
*- Трэба абавязкова знайсьці час, каб пахадзіць па музэях ды патусавацца ў тамтэйшых клюбах.*

Узгадваючы пра парамэтры беларускага жаночага генафонду ды ягоную крохкасьць і вытанчанасьць, дапамагаем дацягнуць Таніны прызы да машыны.

*- Штаны ад "EXTRA" - супэр! Заўсёды марыла сабе такія купіць! Наагул, мой любімы стыль у вопратцы - спартовы: шырокія нагавіцы, красоўкі. М-да, прыемна атрымліваць такія сюрпрызы, асабліва калі нічога не чакаеш.*









Фотасэсія: Павал Пятрышчаў

# глядацкія сымпатыі

**А гэтыя дзяўчаты нам проста вельмі спадабаліся. Для кагосьці зь іх у хуткім часе будзе вызначаны спэцыяльны "Прыз глядацкіх сымпатыяў".**

*Дарэчы, мы і самі ня думалі, што ў нас такая лёгкая рука. Усе мадэлі, што былі на нашых вокладках за апошні час, ужо ў Парыжы! А Юля Кучэрына паступова і няўхільна робіцца вядучай мадэльлю METROPOLITAN MODEL AGENCY.*

*Відаць, Лявону Вольскаму ўжо таксама трэба разьмінацца...*

**Конкурс працягваецца!**

**І апошняе (мабыць, самае прыемнае). Цяпер конкурс CD-MODEL робіцца пастаянным. Наступны пераможца і наступная раздача прызоў – у сьнежні. Сачыце за нашымі публікацыямі! Гэта так проста – паехаць у Парыж...**

## ШЧАСЬЦЕ ЁСЬЦЬ!

***А гэта тыя, хто дапамагае ўвасобіць яго ў жыцьцё***

Фірма **"INTERCARS"** (Менск, пр. Машэрава, 19, каб. 1-6, т.226-93-05, 226-97-80) прэзэнтавала пераможцы квіток "Менск-Парыж-Менск".

**"ГОША"** (**"Морозпродукт"**, 285-85-99, 285-88-99) забясьпечыў для правядзеньня конкурсу целы айсбэрг марозіва.

Выставачны цэнтар **"Олимп"** (Менск, вул.Я.Коласа, 3, т.239-33-35) падарыў пераможцы вялі-і-ізны набор касмэтыкі.

Страхавая кампанія **"АльВеНа"** (Менск, пр.Скарыны, 39, т.284-82-16; вул.Маякоўскага, 14, т.210-28-36; пр.Скарыны, 164, т.202-91-38) страхуе пераможцу падчас вандроўкі.

У краме **"LEVI'S"** (Менск, пр.Скарыны, 48, т.213-45-62) адбыліся здымкі пераможцы.

**УП "Элита-Сервис"** (Менск, пр.Машэрава, 75, к.1, т.250-29-55, 250-26-39) прэзэнтавала паслугі цырульніка і візажыста падчас фотасэсіі.

Курсы **"Step by step"** (Менск, вул.Калініна, 6, т.266-24-09) прапануюць пераможцы 20 гадзін заняткаў замежнай мовай.

Крама **"EXTRA"** (Менск, пр.Скарыны, 43, т.213-40-36) прэзэнтавала пераможцы нагавіцы са сваёй вяснова-летняй калекцыі.

Крама **"CAMELOT"** (Менск, пр. Скарыны, 44, т.284-30-14) дае для конкурсу абутак.

**"ДанКард-БР"**, афіцыйны прадстаўнік брытанскай кампаніі **"Countdown SA Ltd"** (Менск, вул.Чычэрына, 19, оф.204, т./факс 239-42-78), прэзэнтуе дысконтную карту "Countdown" (сыстэма зьніжак).

Стаматалягічная паліклініка **"Евродент"** (Менск, вул.Першамайская, 12, т. 206-57-67) - візыты да стаматоляга падкрэсьліваюць арыгінальнасьць усьмешак.

Інфармацыйная падтрымка конкурсу - рэклямнае аб'яднаньне **"АлВит"** (Менск, вул.Чкалава, 38, корп. 1, т./факс 222-58-02).

Усе ўдзельніцы конкурсу атрымалі сувэніры ад **METROPOLITAN MODEL AGENCY** - майкі, асадкі, календары і г.д.



Алена Ігнатовіч

Вікторыя Кірылава

Сьвятлана Мазоль

Дар'я Ражкевіч



# МОДНАЯ ДЗЯВЯТКА

## на летні сэзон

***Сёньня адчыніла шафу - а там... Восеньскія цёплыя швэдры, джынсы, зь якіх не вылазіш па прычыне татальнай ёмкасьці, пара-тройка ўлюбёных і таму зацёртых да дзірак T-shirts... Гарнітуры для "сур'ёзных сустрэч" ці дыскатэчных тусэ, а ўнізе, на палічцы, стаптаныя красоўкі (ну ВЕЛЬМІ ж яны зручныя!) і кошык з пальчаткамі ды ваўнянымі шалікамі (цяжкая спадчына раньняй вясны). Нудота? З гэтым трэба змагацца!***

### ЦІНЬДЗЕНЦЫЯ

Адразу супакою тых, хто знаходзіцца ў стане пэрманэнтнай барацьбы з уласным арганізмам. Адыходзяць у нябыт тканіны "ў абцяжку". Нават калі не пасьпелі да канца выседзець неміласэрную дыету і пара лішніх сантымэтраў не ўмяшчаецца раніцой у люстэрка - ня страшна. З дыктатурай скончана!

Жорсткіх рэцэптаў няма - можна насіць любыя тканіны і сылюэты. Тое, што было ў папярэднім летнім сэзоне, мірна суіснуе з новымі тэндэнцыямі.

Летнія сукенкі - гэта празрыстыя тканіны, росьпісы а-ля батык альбо буйны ўзор з кветак (напрыклад, агромністыя макі ці гвазьдзікі). Увогуле, разнастайныя варыяцыі шаўковых тканін альбо іх заменьнікаў (арганза, крысталён, шыфон і г.д.) - вось вам новая тэндэнцыя **[РАЗ]**. Тканіны, якія струменяцца, лёгка драпіруюцца і ў той жа час трымаюць форму; сукенкі, нібыта сатканыя з паветра... Іх плісіруюць, перавязваюць стужкамі, зьбіраюць у дробныя складкі ды валаны. Зборкі - новы гіт сэзону **[ДВА]** разам з дамінуючай празрыстасьцю адзеньня. Зборкі - гэта і гарлавіна, і ніз, і рукавы, і ўся цалкам кофтачка ці сукенка. Перавага аддаецца трапэцыевідным (накшталт сарафанаў) ці выцягнутым сылюэтам з акцэнтоўкай нізкага ўзроўню таліі ды масіўным поясам.

### КОЛЕР

Асноўныя фаварыты ў колеравай гаме - усе адценьні жоўтага, ад сонечнага ці лімоннага да пастэльнага, пясочнага і шляхетна-белага **[ТРЫ]**. Але калі падабаюцца сіні ці чырвоны - ня трэба ісьці насуперак жаданьню. Дапушчальна ўсё. Тым больш што чырвоная скураная спадніца моцна вылучыць цябе з шэрагу модніц.

Зьявіліся рэчы колеру "хакі": спадніцы, торбачкі, заплечнікі, пантофлі. Мода на ваеншчыну жыве і перамагае!

### СТЫЛІЗАЦЫЯ

Калі нехта добра арыентуецца ў гісторыі моды і адчувае ў сабе здольнасьці стылізаваць, то майце на ўвазе - вяртаюцца 70-я гады. Так што калі недзе завалялася панама з абвіслымі палямі, высачэзныя сандалі ці вузкая спадніца - іх час надышоў. Менскія модныя крамы ўжо пранікліся гэтай тэндэнцыяй - у "Extra", што на Танкавай, мною адсочаная дыхтоўная калекцыя маечак у стылі "дыска 70-х". Дарэчы, там жа зьявілася і сэрыя "Вецер з Усходу" з партрэтамі Мао, а таксама маечкі з адным рукавом ды іншыя ўцехі душы...

З нагавіцамі ў гэтым сэзоне, як з тым надвор'ем - кожнае добрае. Клёш ад калена, расшыраныя ад сьцёгнаў, прамыя, капры ці ўвогуле кароценькія шорцікі... Выбірай на свой густ ці пад капрызную фігуру. Тым ня менш, перавагу ўсё ж варта аддаць клёшу, няхай і невялікаму. Эмпірычным шляхам высьветлена, што самы просты спосаб разжыцца на дыхтоўны фірмовы клёш - пад'ехаць у "LEVI'S" (Коласа-сквэр). Наагул, складаецца ўражаньне, што клёш доўга нас не пакіне **[ЧАТЫРЫ]**.

Той, хто фанацее ад Мадоны ці паважае каўбойскі стыль - радуйцеся. Ён нас не пакінуў таксама. Няхай жыве капялюш с закручанымі палямі, высокія боты і адвечная джынса! Але па прынцыпе тыпалягічнае разнастайнасьці зьявіўся стыль а-ля індзеец. Галоўнае - гэта пер'е. Масіўныя завушніцы, бранзалеты, вышываныя адпаведным узорам кашулі, макасіны, багацьце скуры - ад торбачак да кофтачак, перавязаных шнурамі **[ПЯЦЬ]**. Сёе-тое з гэтай опэры можна падабраць у тым жа "LEVI'S" альбо ў "Кадры" на Скарыны-авэню.

Калі ў мінулым сэзоне папулярнай была клетка, дык зараз ейнае месца займае палоска - прыкладам, паласатыя вузкія нагавіцы ці спадніца трапэцыяй **[ШЭСЬЦЬ]**.

Актуальным застаецца і стыль "натуральны" - з адпаведнымі тканінамі, простым сылюэтам і сандалямі з натуральнай скуры. Колеравая гама - пастэльная. Тон збольшага цёмны.

### АКСЭСУАРЫ

Яшчэ адна тэндэнцыя - небывалае багацьце аксэсуараў. Паясы і наматаныя на запясьці скураныя стужкі ды пацеркі дапаўняюцца вышыўкамі бісэрам ці штучнымі каменьнямі на сукенках, інкрустацыяй на пантофлях пад тон лаку, рознакаляровымі стужкамі ў апрацоўцы камізэлек, торбачак, асымэтрычных спадніц. Наагул, вышыўка бісэрам - новы bon ton, і чым болей яе, тым лепей **[СЕМ]**. У Менску граматныя аксэсуары - бранзалеты, пацеркі, фенечкі і г.д. - былі мною адсочаныя ў "Extra" ды ў "LEVI'S".

Яшчэ адна навіна - багацьце паясоў **[ВОСЕМ]**. Шырокія і неабавязкова скураныя, яны павінны быць адной з дамінантаў строю. Лепей, калі пояс шырокі, масіўны і складаецца зь перапляценьня мноства шнуроў, стужак, палосак набранага бісэру. Калі ён вісіць на сьцёгнах, то выдатна кантрастуе зь лёгкімі тканінамі, падкрэсьлівае фігуру і візуальна выцягвае яе. А ўвогуле, пояс можна замяніць вялізнай хусткай.

Ад менскага "піску" на торбачкі пад пахай табе не ўцячы. Гэта выключна гарадзкая мода, хоць у нас яна болей нагадвае гістэрыю. Адзіная альтэрнатыва - калі ўласны выбар прыпадае на заплечнікі, якія, напрыклад, можна паглядзець у "Камелот" ці "Extra".

І апошні піск, які ўжо цалкам захапіў пачуцьці менскіх модніц - гэта пантофлі з празьмерна доўгімі насамі, накшталт "я маленькі Мук", у большасьці сваёй бяз заднікаў (разьвітваемся з мазалямі) і засьцёжак. Вышыня абцасаў - на ўласны густ, але перавагу адаюць сярэднім абцасам-шпількам. Для экстрыму можна падабраць сандалі: па жаданьні, на пляцформе ці з высокімі абцасамі, але галоўнае - са шнуроўкай да калена. Ножку, вядома ж, гэта страйніць, але кожны раз апранаць - запарысься, дый гэтыя (гм!) пантофлі пасуюць толькі пад кароткія спадніцы ды сукенкі. Але

ПРЫГАЖОСЬЦЬ - ЯНА Ж ПАТРАБУЕ АХВЯРАЎ! **[ДЗЕВЯЦЬ]**.



***Наталя Лазука***

# ВЕЦЕР З ПОЎДНЮ

## гарачыя танцы

ales'ka

**Штогод улетку з зайздроснай пэрыядычнасьцю вяртаецца мода на "тэмпэрамэнт": стылі latinos ды afrika, як варыянт - з тонкім налётам цыганшчыны (залежыць ад ступені разбэшчанасьці канкрэтнага індывіда). У ачмуроныя парамі тэкілы мазгі прыходзіць напаўвар'яцкая думка - дастаць з паліцы запыленыя кампакты зь якім-кольвек Рыкі Марцінам ці напевамі чарнаскурых з Цэнтральнай Афрыкі (ізноў жа, залежыць ад ступені разбэшчанасьці) і забіцца ў экстатычных канвульсіях мамбы, ча-ча-ча ці чаго там яшчэ... Прапануем агляд гарачых танцаў на сэзон 2002.**

**Мамба**. Лацінаамэрыканскі танец, які танчыцца наступным чынам: трэба рытмічна пагойдваць сьцёгнамі, нібы зазываючы процілеглы пол. Строі максымальна адсутнічаюць - у лепшым выпадку кароткая спадніца ці шорты, а зьверху - гірлянда з жывых кветак.

**Румба**. Млявы, павольны, поўны каханьня танец мэксыканскага паходжаньня з кубінскімі элемэнтамі. Увабраў нэгрыцянскія і гішпанскія рытмы. Распаўсюдзіўся ў канцы XX ст. у ЗША і Заходняй Эўропе. Танчыцца наступным чынам: можна і ў пары, і паасобку, галоўнае, каб у танцы прысутнічалі сьпіралі, павароты, закруткі і г.д. Строі: тое, што вам падкажуць уласная фантазія й пачуцьці.

**Пасадобль**. Танчыцца наступным чынам: мужчына выяўляе зь сябе тарэадора на карыдзе, а жанчына можа выступаць у некалькіх ролях: гішпанкі з кастаньетамі, другога тарэадора, плашча ў руках партнэра і нават быка. Назвы фігур сьведчаць пра перайманьне духу дзікай карыды й неўтаймаванай гішпаншчыны: "Атака", "Бандэрыльяс", "Гішпанская лінія", "Удары флямэнка", "Піке" і г.д. Строі максымальна набліжаныя да гішпанскіх убраньняў.

**Самба**. Танчыцца наступным чынам: культ цела робіцца найважнейшым, таму рухі вельмі канкрэтныя. Назвы фігур самбы таксама сымптаматычна сьведчаць пра лацінскае паходжаньне: "Корта джака", "Батафога", "Хада крузадас". Пра строі ўсе прыблізна маюць уяўленьне з тэлевізіі, бо ўвесь дыяпазон самба-ўбраньняў штогод прадстаўлены на шэсьці школаў самбы падчас карнавалу ў Рыа-дэ-Жанэйра: ад вельмі складаных і багатых строяў да "ню" - абсалютнай адсутнасьці на целе ўсялякіх цывілізацыйных наслаеньняў (у такім выпадку цела мусіць быць вельмі прыгожым).

**Танга**. Старажытны гішпанскі танец, здавён завезены ў Паўднёвую Амэрыку. У XX ст. пашырыўся як эстрадны і бальны танец. Танчыцца наступным чынам: партнэры робяць сьлізготныя крокі з сэкунднымі прыпынкамі, і ўсё гэта абавязкова заканчваецца эфэктным пазаваньнем (напрыклад: дама ў руках кавалера нізка нахіленая, а кавалер схілены над ёй). Адна зь фігураў танга завецца "Паляваньне", што сьведчыць пра эратычнае паходжаньне танцу. Строі - сукня з доўгім разрэзам, даўгія пальчаткі.

**Цыганачка**. Танцы рамалэ абвязкова выконваюцца пад жывы акампанэмэнт і песьню. Танчыцца толькі жанчынамі: яны актыўна трасуць плячыма і гуляюць са спадніцай. Характэрныя строі: яркая кашуля, шмат упрыгожаньняў на шыі, вялізная колькасьць спадніцаў, распушчаныя валасы.

**Ча-ча-ча**. Мае афрыканскае паходжаньне. Яскравы беларускі ўзор ча-ча-чы: песьня "Казік" з "Народнага альбому", "Dzied Maroz" ад NRM і "Оле-оле!" з альбому "Я нарадзіўся тут". Танчыцца наступным чынам: рухі абавязкова адлюстроўваюць складаны рытм танцу - першыя два прыстаўныя крокі падзяляюць чацьверты ўдар такту, а трэці робіцца на першы ўдар наступнага такту. Простымі словамі: "Гэта рытм барацьбы і каханьня, гэта музыка новага дню, гэта песьня ад раньня да раньня, гэта танец вагню" (Вольскі/Суша, "Оле-оле!"). Некаторыя назвы фігур адлюстроўваюць дух танцу - "Рытм гуапача", "Кубінскі брэйк" і г.д. Строі крыху больш закрытыя, чымся ў самбе.





# ЯК ЗДАЦЬ УСЮ СЭСІЮ ЗА АДЗІН ДЗЕНЬ НА ЎСЕ ПЯЦЁРКІ

***Ніяк. Гэта ўсё показкі.***

А показкі бываюць розныя: пра чукчаў, мянтоў, пра Чапаева і Вовачку... Мабыць, ёсьць і пра асноўны атрыбут сэсіі - бібліятэкі. А калі й няма, дык рэчаіснасьць тамака круцейшая за ўсялякія показкі.

Возьмем хаця б "Ленінку" - месца найбольшай канцэнтрацыі разумных людзей на адзінку прасторы. Асабліва ў часе сэсіі. Вось вам выпадак, які сьведчыць пра несумненную папулярнасьць Нацыянальнай бібліятэкі ў народзе: калі здарылася так, што ў адзін зь нядаўніх травеньскіх дзянькоў яна была зачыненая, нейкі расчараваны чытач прыляпіў жуйкай да дзьвярэй наступны крык душы: "ВЫ КОНКРЕТНО ПОДОС#АЛИ". Любяць нашыя людзі кніжкі, хоць ты іх забі!

Аднак там ня толькі кніжкі цікавыя. Чытачы часам яшчэ цікавейшыя. Некалькім пакаленьням студэнтаў, безумоўна, запомніўся дзедка-фізык, кантужаны ў галаву, які хадзіў па зале з паперкай і прапаноўваў усім пачытаць пра жудасныя амэрыканскія спадарожнікі, што робяць азонавыя дзіркі. Зараз гэты дзядок кудысьці зьнік, а шкада - вясёлы быў.

Яшчэ адзін чытач запомніўся нам глыбінёй сваіх пачуцьцяў. Ён адкрываў тэхнічную літаратуру, чытаў спачатку, як і ўсе нармальныя людзі, а потым пачынаў над ёй горка плакаць. І так некалькі дзён запар. Дзе ён зараз - таксама невядома.

Думаю, вельмі радуе бібліятэкарак той цудоўны хлопец, які выцягвае скрыні з каталёгаў, складае іх на падлогу і сыходзіць.

Быў там таксама рамантычны дзядзька, аматар Хлебнікава, які мала таго што хадзіў у зялёным пінжаку, дык яшчэ й закахаўся ў адну студэнтку, чытаў ёй свае вершы, загнаў амаль бясплатна збор твораў свайго ўлюбёнага пісьменьніка і, мусіць, скончылася б усё вясельлечкам, калі б сэрца студэнткі не было ўжо занятае.

Вельмі падабаюцца нам чытачы з мабільнікамі. Увогуле прыемна, калі грае вясёлая музыка. А калі выхаваныя і ветлівыя ў іншы час бібліятэкаркі пачынаюць пад гэтую музыку лаяцца непрыстойнымі словамі, ажно замілаваньне перапаўняе душу! Вось у маскоўскую "Ленінку" ўваход з мабіламі проста забаронены, там такога ўжо не пачуеш. Там, елкі зялёныя, гукі яшчэ весялейшыя. Мы ніколі не забудзем, як гучна і смачна тамака нехта хроп. І яму не перашкаджаў аніводны мабільнік!

Загадкі нашай галоўнай бібліятэкі маглі б скласьці цэлы том энцыкляпэдыі цудаў. Напрыклад, у крытыцы па Дастаеўскім часам можна пабачыць паперкі ад папярэдніх заказаў на імя... Дастаеўскага! Любіць клясык сябе, родненькага, пачытаць...

Наагул, у кнігах можна знайсьці шмат займальнага, апрача таго, што ў іх напісана. Тыя, хто цікавіцца рознымі благімі словамі, напэўна, бачылі паперкі, клапатліва ўкладзеныя ў кніжкі, прысьвечаныя гэтай тэме. На паперках напісана наступнае:

***"Добрый день!***
***Раз Вы взяли читать эту книгу, то Вас наверняка интересуют вопросы нецензурной лексики, в частности мата. <...> Вот уже десятый год я пишу словарь русского мата (рабочее название "Лексикон матерный"). Собрано более 3000 слов, около 1700 выражений, почти 500 пословиц и поговорок. Моя цель: создать самый полный и самый толковый словарь мата в мире. Неслабо, правда? Меня интересуют любые материалы по мату, а также контакты с единомышленниками".***

Гэта не "няслаба", дарагі таварыш! Гэта - беспрэцэдэнтны гераізм! За гэта трэба ўзнагароджваць! Адрас, дарэчы, у рэдакцыі - для аднадумцаў.

Але самы незабыўны чалавечы і грамадзкі дакумэнт - магчыма, увогуле галоўная рэч, вартая ўвагі ў Нацыянальнай Бібліятэцы Беларусі - належыць пёрку намесьніка дырэктара па гаспадарчай працы гэтай установы. Жанр дадзенага тэксту мы вызначаем як псыхалягічны трылер з рысамі эратычнай жахоткі. Такім чынам, увага!

***"Інструкцыя аб прывядзенні ў дзеянне пажарных помпаў-узмацняльнікаў"***
***(друкуецца ў скарачэньні з захаваньнем арфаграфіі арыгіналу)***

***"Пажарныя помпы-узмацняльнікі прызначаны для стварэння напору вады пры тушэнні пажару.***

***Выкарыстоўванне вады з пажарнага вадаправоду ў іншых мэтах катэгарычна ЗАБАРАНЯЕЦЦА. <...>***

***У выпадку ўзнікнення ачага пажару, пажарны з бліжэйшых пажарных шафаў раскочвае рукавы ў бок пажару і адкрывае запорны вентыль шляхам варочання яго ў левы бок. Дзяжурны ПВА, або кіраўнік тушэння пажару ўключае помпы-узмацняльнікі, што знаходзяцца ля пажарнай шафы, шляхам націску пальцам на чорную кнопку пускацеля да тых пор, пакуль не пачуецца пстрычка.***

***У гэты час выклікаецца слесар-вадаправодчык, які накіроўваецца ў помпавую для забеспячэння работы помпаў-узмацняльнікаў.***

***Калі скончыцца патрэба ў рабоце помпаў-узмацняльнікаў, неабхопна націснуць пальцам на чырвоную кнопку пускання, пакуль не пачуецца пстрычка, а запорны вентыль закрыць шляхам варочання яго галоўкі ў правы бок".***

І ратуй вас Божа націснуць на неабхопную кнопку пусканьня ня пальцам, а чым-небудзь іншым! Калі ж не пачуецца пстрычка, то дакладна ўсе пагарым.

А аднойчы наведнікам Нацыяналкі давялося назіраць незвычайнае для такой установы відовішча: па калідоры ішлі два хлопцы, апранутыя ў плаўкі, ласты ды падводныя маскі. Хаця ніякага патопу ў бібліятэцы не заўважалася. Насамрэч жа гэта былі паэт Зьміцер Вішнёў і "палкоўнік-аквалянгіст" Мітрыч, якія ў той дзень ладзілі ў актавай залі пэрформанс. Але такое там здараецца вельмі-вельмі рэдка.

Часьцей там адбываецца тое, чаго знарок ня выдумаеш. Таму чытайце, людзі, кніжкі ў бібліятэках. Гэта хутка, смачна, а часам нават па-беларуску.

***Ленін і Джэці***

# ПІВА, БОЙКІ ДЫ ФУТБОЛ

## (а-?)маральны партрэт фаната

***31**-га траўня ў Японіі ды Паўднёвай Карэі распачалося тое, чаго чакалі ўсе, хто хоць крыху прэцца ад футболу, - Мундыяль, які ладзіцца толькі раз на чатыры гады. Апошнія месяцы перад чэмпіянатам праваахоўчыя органы краін-гаспадароў амаль цалкам прысьвяцілі трэніроўкам па нэўтралізацыі футбольных фанатаў-хуліганаў. Хто гэта такія і чаму іх так баяцца?*

### Сэр ДЖОН і ГОПнікі

Сярэднестатыстычны абыватель, пачуўшы словы "футбольны фанат", адразу ж уяўляе сабе гэткага маргінальнага тыпа ў байцы LONSDALE і ў ботах ад Dr.Martens, з паголенай галавой, у якой круціцца адзіная думка: "Як бы гэта табе, урод, смачней заехаць у табло?" Можа, гэта прагучыць банальна, але ня ўсё так проста.

Футбольныя фанаты - перш за ўсё людзі, якія вельмі любяць футбол і гатовыя дзеля яго на ўсё. Фаны зьявіліся адразу ж пасьля ўзьнікненьня футболу - у 1863 годзе. Напачатку ніхто асабліва ня парыўся, калі які-небудзь Джон ехаў зь Лідсу ў Манчэстэр, каб пакрычаць там "Go-go, Leads!!!". Ну, хіба што ягоная бедная жонка Мэры. Езьдзіў-езьдзіў Джон па сваёй Ангельшчыне на гульні "Лідс Юнайтэд", ажно пакуль нейкія лёнданскія докеры не начысьцілі ягоны шыкоўны фэйс, прымаўляючы: "What the fuck are you doing here, bastard?!". Папярэдне, вядома ж, кульнуўшы колькі куфляў элю. Ну а Джон затаіў на іх крыўду, і ў сваю чаргу вылавіў зь сябрамі такіх самых "партызанаў" са сталіцы, калі тыя культурненька прыехалі на футбол у родны горад Джона.

### ПЛЯНавыя АХВЯРАпрынашэньні

І пайшло-паехала! Тыя на гэтых, гэтыя на тых. Ніхто зараз ужо і ня памятае, з чаго канкрэтна пачалося адвечнае гішпанскае мачылава паміж ультра-хуліганістымі заўзятарамі "Барсы" ды "Рэалу" альбо разборкі паміж маскоўскімі "коньмі" (прыхільнікамі "ЦСКА") ды "мясам" ("Спартак"). Менавіта праз гэтыя крывавыя дзеі слова "фанат" цяпер трывала атаясамліваецца са словам "хуліган".

Хуліганамі ж можна назваць толькі пэўны адсотак усёй фанацкай братвы. Гэта тыя, каму часам важней ня трапіць на футбол, а смачна пабіцца з сабе падобнымі прыхільнікамі іншых клюбаў. Часта агрэсія даходзіць да крайнасьці - тады, прабачце мой цынізм, хаўтурныя канторы атрымліваюць дадатковы прыбытак. Аднак такі тып хуліганаў уласьцівы найперш для эўрапейскіх прастораў, дзе маладому піплу сумна ў зажратым грамадзтве (Ангельшчына, Нямеччына), альбо дзе брутальнасьць асяродзьдзя папросту робіць цябе жывёлай (Беларусь, Расея). Зусім па-іншаму ставяцца да футболу лацінаамэрыканцы: для большасьці зь іх футбол - рэлігія, якую яны фанатычна вызнаюць. І калі ўжо б'юцца, дык зазвычай пасьля гульні, з роспачы: ня могуць спакойна назіраць радасьць супернікаў. Гэтак было ў Ліме 24 траўня 1964 году, калі зборная Аргентыны выйграла ў пэруанцаў дзякуючы голу на апошніх хвілінах. Пасьля матчу адбылася крывавая дзея, у якой удзельнічалі да 20.000 мясцовых фанаў ды каля 3.000 гасьцей. Толькі паводле афіцыйных зьвестах было забіта 300 чалавек ды безьліч люду паранена. Заўважце, гэта быў проста незапляванаы акт ахвярапрынашэньня футболу. У Эўропе ж усё больш "цывілізавана" - загадзя вызначаецца колькасьць удзельнікаў ды наяўнасьць / адсутнасьць зброі. У Галяндыі, Нямеччыне, Гішпаніі ці Польшчы такія разборкі - ня рэдкасьць. Аднак яны ўжо ня маюць амаль ніякага дачыненьня да футболу - звычайнае крымінальнае хобі.



### ПОСТсавецкія ГАНГі

Той, хто думае, што фанацкая мода прыйшла да нас толькі нядаўна, жорстка памыляецца. Было дзялоў і ў савецкія часы, ды яшчэ якіх! Проста гэтая інфармацыя амаль не ўсплывала, дый цкавалі фанатаў, як і ўсіх, хто нечым адрозьніваўся ад ідэалу сацыялістычнага працаўніка. Зь нечаканым сувэрэнітэтам беларускія фанаты, як і ўсе беларусы наагул, задумаліся, што рабіць далей...

Думалі нядоўга. Пакрысе пачалі фармавацца банды-гангі: *"Blue-White Gang"* (менскае "Дынама"), *"River Lions"* (магілеўскі "Днепр"), *"Blue-White Devils"* ("Дынама" Берасьце), *"Black-White Tornado"* ("Тарпэда" Менск), *"Green-White Tramps"* (ФК Гомель)... Пакаленьне, якое расло, на сувэрэнны футбол гледзячы, узяло ад савецкага часу стэрэатып фаната - абязбашаннага хулігана, якога ў іншых гарадох сустракаюць кулакамі і які мусіць абараняцца.




### АЎТАРЫТЭТныя пацаны

Асноўныя цаглінкі, зь якіх будуецца аўтарытэт фаната ў сэпотэрскім соцыюме, - гэта выезды за сваёй камандай і за нацыянальнай зборнай у іншыя гарады ды краіны. Гэткім чынам, цяпер у Беларусі блізу 5.000 фанатаў, якія пастаянна некуды выяжджаюць. Самы буйны беларускі выезд зрабілі ўвосень 2000-га году фанаты менскага "Дынама" - у Барысаў, на гульню зь мясцовым БАТЭ. Блізу 500 чалавек дашчэнту разьнесьлі гарадзкі стадыён, пабіліся зь міліцыяй ды размалацілі электрацыю, у якой вярталіся дахаты. Калі фанату ўдаецца "прабіць" усе выезды за сэзон, то гэты сэзон называецца залатым, а сам такі факт істотна ўздымае аўтарытэт фана ў вачох супляменьнікаў. Нармалёвы фанат-мачо мусіць мець хаця б адзін залаты сэзон.

### СПЭЦыфіка ТУТэйшага ФАНАТызму

Яшчэ адно абвяржэньне агульнапрынятых ісьцінаў: далёка ня кожны фанат носіць шалік сваёй каманды. Справа ў тым, што існуюць розныя групоўкі сэпотэраў адной і той жа каманды - так званыя "фірмы". "Шалікаўцы" (гэтак іх клічуць у Польшчы) - у асноўным дзеці да 16 гадоў.




Ходзяць яны, збольшага, толькі на хатнія гульні ("выхадкі") і практычна ня ўдзельнічаюць у бойках. Стрэлкі (месцы махачу) забіваюцца людзьмі з элітарнай фанацкай фірмы - да прыкладу, "Patriots of Dynamo Minsk". Натуральна, кожная банда мае сваіх сяброў ды ворагаў. Беларусь падзеленая на Ўсход ды Захад: магілёўскія дняпры, бабруйскія белшынаўцы, салігорскі "Шахцёр", мазырская "Славія" ды "Гомель" б'юцца зь менскім "Дынама", "Тарпэда", фанамі гарадзенскага "Нёмана" ды берасьцейскімі "дынамітамі". Апошнім часам менскія тарпэдоны ды дынаміты таксама варагуюць міжсобку. Падчас бойкі лічыцца за гонар ня толькі надраць дупу варожаму "скаму", але і зьдзерці з "вы#лядка" ягоны фанацкі артэфакт (калі ён, вядома, маецца ў наяўнасьці) - "ружачку" (шалік). Дадам, што ў Беларусі існуе дамова паміж лідэрамі фан-рухаў пра тое, што падчас боек нельга ўжываць нічога апроч сваіх кулакоў ды ног - ніякай халоднай зброі, якая на слэнзе завецца "га#ном". Зразумела, даволі часта гэтае правіла парушаецца.

Ёсьць катэгорыя людзей больш саліднага веку (не маладзей за 20 гадоў) і з больш паважнымі заробкамі, якія езьдзяць хварэць за зборную ў замежжа, жадаючы спалучыць якасны футбол з паўнавартасным падарожжам. Хаця назіральнае вока пэленгуе асобных дзядзькоў-ездуноў і на паламаных плястыкавых сядушках беларускіх стадыёнаў. Самы масавы дэсант нашых "за зборную" адбыўся мінулай вясною ў Кіеве, дзе 73-ом тысячам "сала" процістаяла 2-тысячная "бульбяная" тарсыда. На такіх выездах узьнікае маленькая праблемка, якая нават часам даводзіць да боек - сьцягі. Пераважная большасьць беларускіх ультрас лічыць бел-чырвона-белыя колеры бэнэфаўскімі - самі яны махаюць выключна зялёна-чырвонымі сьцягамі, што тлумачыцца перш за ўсё адсутнасьцю мазгоў ды разгулам ідэяў расейскага скін-шавінізму ў галовах (???) беларусаў. Асабіста я неяк да ранку спрабаваў пераканаць па інтэрнэце аднаго такога менчука ў абсурднасьці ягоных поглядаў. Добра, калі хоць крыху зрушыў яго зь мёртвай кропкі...



...У польскай Лодзі амаль 2 гады таму падчас гульні нашых з палякамі п'яныя бел-ультрас пачалі зьдзіраць сьцягі з мэталёвай сэткі на стадыёне. Усчалася бойка. Палякі пляскалі ў ладкі, гледзячы, як беларусы, што разам прыехалі падтрымаць сваю каманду, малоцяцца між сабою. Спэцыфіка тутэйшага фанатызму...

***Па падліках экспэртаў, толькі Японію падчас ЧС-2002 наведае як мінімум 365.000 замежных футбольных заўзятараў. Па аэрапортах краінаў-гаспадароў Мундыялю разасланыя сьпісы вядомых эўрапейскіх хуліганаў, а таксама асобаў, што падазраюцца ў футбольным тэрарызме. Толькі ангельскіх прозьвішчаў тут каля 700. Натуральна, усім фігурантам чорнага сьпісу ўезд будзе забаронены. Дарэчы, арганізатары Мундыялю стварылі адмысловую антыхуліганскую групу, якая будзе сачыць за ўсімі матчамі зборнай Вялікай Брытаніі.***

***Нягледзячы на ўсё гэта, Японія і Карэя адмяняюць візавы ўезд для грамадзянаў сваіх дзяржаў падчас ЧС. "У нас няма сваіх футбольных хуліганаў, - кажа Ко Ямагучы, дырэктар па сувязях японскага арганізацыйнага камітэту Мундыялю-2002. - Але да праблемы мы ставімся сур'ёзна."***

***Тым часам у Паўночнай Карэі створаныя брыгады з жанчын-паліцэйскіх, якія будуць забясьпечваць парадак на стадыёнах. Не дапамогуць гумовыя дубцы - у ход пойдуць стройныя ножкі.***

***ФАНІ ФЭН***

# КРАІНА НОН-ГРАТА

У ТРАЎНІ Я ЗНОЎ ПАДСЕЛА НА ТЭЛЕФОН, ГЭТЫМ РАЗАМ З МЭТАЙ ПАТРЫВОЖЫЦЬ КВОЛЫ СПАКОЙ БЕЛАРУСКІХ ЗНАКАМІТАСЬЦЯЎ САКРАМЭНТАЛЬНЫМ ПЫТАНЬНЕМ: "КУДЫ Б ВЫ НІКОЛІ Ў ЖЫЦЬЦІ НЕ ПАЕХАЛІ АДПАЧЫВАЦЬ?" ПА ВЫНІКАХ АБЗВОНУ ЗОРКАМ БЫЛІ ПРЫСВОЕНЫЯ ГАНАРОВЫЯ ЗВАНЬНІ (ПАКУЛЬ ШТО - НЕ НАРОДНЫХ АРТЫСТАЎ).

Адвечная рок-князёўна **Кася Камоцкая** нізавошта ня хоча ехаць у Маскву: "Там не адпачнеш, бо шмат людзей". Наагул, вольналюбівая натура спн.Камоцкай не прымае гарады ў якасьці месца адпачынку. У выніку спн.Кася заваёўвае сёньня тытул Міс Урбанафобія.





IREX/ProMEDIA

**Іна Афанасьева,** сьпявачка, дужа зарыгінальнічала, заявіўшы, што нізавошта не паехала б у "гарачыя кропкі". "Я баюся," - шэптам паведаміла яна. Насамрэч спн.Афанасьева хацела б пабываць паўсюль, асабліва калі запрашаюць. "Лес, намёт, мора, горы, Поўнач, Чукотка - паўсюль можна адпачыць. Галоўнае - наколькі ты настроіўся на адпачынак. Можна нават паехаць да бабулі ў вёску: растапіць печ, напячы бліноў...". Я ажно прасьлязілася і ахвотна прысудзіла сьпявачцы тытул Міс Баязьлівая Ідылія.

Для сьпявачкі **Алесі** няма такога месца, дзе б нешта перашкодзіла ёй адпачыць. "Якасьць адпачынку залежыць не ад месца, а ад чалавека - наколькі ён здольны атрымліваць асалоду ад вольнага часу," - разважае Міс Непераборлівасьць.



IREX/ProMEDIA



Прадусар і музыка **Раман Арлоў** не паедзе адпачываць у Маскву (боязь гэтага мэгаполісу сядзіць глыбока ў падкорцы беларусаў!), бо заўсёды езьдзіць туды па справах, і Масква асацыюецца ў яго перадусім з працай. Ня хоча Раман адпачываць і ў Нью-Ёрку - "па тых самых прычынах". Хоць пакуль што Нью-Ёрк як месца будучае працы - толькі ў марах Містэра Працаголіка.

Тэледзіва **Элеанора Язерская** паехала б адпачываць у любыя іншыя месцы, акрамя Чачэніі ("там вайна і страляюць") і Манголіі. Тут гаворка з ТБ-вядучай прымае нечаканы абарот. "У Манголіі брудна. У гэтую краіну бяруць з сабой бутэльку сьпірту, але не для таго, каб ужываць унутр. Сьпіртам праціраюць ручкі дзьвярэй перад тым, як узяцца...". Арыгінальна-практычны падыход да ўжываньня сьпірту ад Міс Чыстыя Ручкі!





Паэт, празаік, выдавец і мастак **Адам Глёбус** паведаміў, што ёсьць шмат месцаў, куды ён ня хоча ехаць. Афрыка, Азія, Паўночная і Паўднёвая Амэрыка, Антарктыда - тут вы ніколі не сустрэнеце пісьменьніка ў амплуа адпачывальніка. Наведайце Эўропу - вось там бываць ён любіць. "Я - у поўным сэнсе слова эўрапейскі чалавек". Апляўдысмэнты, лэдзі й джэнтэльмэны! Гэта быў Містэр Эўропа.



Дырэктар аддзелу продажаў "1 музычнага каналу" (славутая 6-ая кнопка на Вашым тэлеку) **Барыс Штэрн** не паехаў бы ў Ірак: яму проста "не падабаецца гэтая краіна". Далёка ня ўвесь Усход вабіць гэтага "чалавека ад шоўбізнэсу", а па сумяшчальніцтве - Містэра Антыхусэйна.




Мамант беларускага рок-н-ролу **Ігар Варашкевіч** ("Крама") не паехаў бы ў Паўночную Карэю, Ірак, Лівію - па "ўсім вядомых прычынах". "Не ўяўляю (?), таму і не паеду," - рэзюмаваў Містэр Цьмяны Лякканізм.



Апытвала ALES'KA



ТЭМА

# ЗАБАЎКІ DA СЭЗОНУ

У гэтым сэзоне тэхна-дызайнэры, а за імі й фірмы-вытворцы спартовага інвэнтару, усур'ёз захапіліся baby-стылем. Гэтыя забаўкі толькі на першы погляд падаюцца жартам...



## Handy Bike
## (Вяртлявы Ровар)

Ровар ад Commuter Solutions. Самы сэксуальны від транспарту гэтага сэзону. Канструкцыя дазваляе прыстасаваць Handy Bike да любога росту пасажыра. Ровар лёгка зьмяшчаецца ў багажнік аўтамабіля, незамяняльны ў загарадных вандроўках і ладна ўпісваецца ва ўрбаністычны пэйзаж.








## Mini Skateboard
## (Малы Скейт)

Маленькая, але дасканалая забаўка ад фірмы Hudson. На хафлайку табе ня будзе роўных, а ў вагоне мэтро ты не заедзеш сваёй дошкай якому-небудзь дзядзьку па ... .




## PRO:GO
## (Конік-Профі)

Pro:Go ад NX Gen прызначаны ня толькі для скончаных інфантылаў, але й для тых, хто любіць адчуваньне палёту і надзейнасьць. Зроблены з аэракасьмічных сплаваў, ён здольны вытрымліваць любыя нагрузкі, а пнэўматычная тэхналёгія M16 Air Pressure прымусіць цябе скакаць на вышыню да 2 м.





## Dirt Surfer
## (Сноўборд Бязь Сьнегу)

Чым бы заняцца сноўбардысту ўлетку, апроч таго як біць аўто прыстойных буржуа? Купіць Dirt Surfer і не адрывацца ад трэніровачнага працэсу! Урэшце, чым зялёныя горныя схілы горшыя за белыя?

## Mikro-Bike
## (Ровар-Бацыла)

Навінка ад BMX, прэзэнтаваная напачатку вясны. Памерамі нагадае табе ўлюбёны дзіцячы трохколавы ровар. Можна, вядома, падарыць Mikro-Bike малодшаму брацiку, але тады забаўка рызыкуе стаць прадметам унутрысямейных разборак. Тым болей, што па трываласьці ровар прызначаны для сярэднестатыстычнага дарослага. Выснова: Катайся Сам!






# СУСЬВЕТНАЯ ГІСТОРЫЯ ЗЭДЛІКАЎ

## працягваецца ў Беларусі

**Апэнінскі паўвостраў, даўшы сьвету Адраджэньне, мафію і віно, не абмежаваўся экспартам толькі гэтых панняткаў. 23 красавіка 1946 году радзіма Леанарда да Вінчы разрадзілася вынаходніцтвам, якое зьмяніла выгляд сусьветных дарог - матаролерам "Вэспа". Амаль адразу матаролеры пайшлі ў народ. Апошні ахрысьціў іх ласкава -**

















**"ЗЭДЛІКІ"...!**

Самы лепшы паказчык папулярнасьці матаролераў - тое, што найпершыя плягіятары ў сьвеце - японцы - адразу ўчапіліся за гэтае вынаходніцтва і распачалі яго масавую вытворчасьць. Сёньня асноўныя фірмы-вытворцы скутэраў (галоўнае адрозьненьне ад матаролера - у наяўнасьці аўтаматычнай каробкі перадач) знаходзяцца ў азіяцкіх краінах і ў Італіі. Ды яшчэ хіба што ў Гішпаніі.

Галоўныя складнікі папулярнасьці матаролераў і скутэраў - манеўранасьць і эканамічнасьць. Пра расход паліва можна даведацца зь любога каталёгу скут-прадукцыі: ён звычайна не перавышае 2 літры на 100 км. Манеўранасьць таксама можна выразіць лічбамі, але іх надта шмат, і простаму чалавеку яны незразумелыя. Аднак пабачыўшы на ўласныя вочы, як, нібы тая блыха, скача паміж машынамі скутэр, на вялікай хуткасьці ўцякаючы ад "мэрса", з форткі якога даносіцца: "..ка! Аддай 30 баксаў!" - адразу пранікаесься магчымасьцямі скутэра. Такая true story...

У Эўропе і Азіі да скутэраў даўно прызвычаіліся. А вось




**У БЕЛАРУСІ,**

дзе матаролеры былі вядомыя ў 60-70 (савецкія аналягі "Вэспы" - "Электрон", "Вятка"), на гэты від транспарту забыліся. І скутэрыст сёньня ўспрымаецца тут як нейкая незвычайная жывёліна, на якую трэба глядзець і тыцкаць пальцам. А яшчэ лепей абагнаць на аўтамабілі і падрэзаць, каб потым, як той паляўнічы, сфоткацца з трафэем. І павесіць фатаздымак над камінам - "Я, мая крутая тачка і сьвежазьбітая пачвара-скутэрыст". Гэта ня жарт, а яшчэ адна гісторыя true.

Толькі адсутнасьцю скуткультуры на постсавецкай прасторы можна патлумачыць, чаму афіцыйны

**СКУТКЛЮБ**

у Беларусі зьявіўся толькі 31 кастрычніка 2000 году. Спачатку ён існаваў паралельна з байкклюбам, і байкеры нават зараз глядзяць на скутэрыстаў як на малодшых братоў. Маўляў, пасталеюць - паразумнеюць, выкінуць свой "зэдлік" і возьмуць чопэр. Некаторыя і насамрэч купілі матацыклы - яны зараз стаяць у гаражах і пыляцца. Бо нішто не дае столькі свабоды ў горадзе, як скутэр. Клопатаў з ДАІ - мінімум. Скутэрыстам дазваляецца нават язда калёнай, хоць групавое кіраваньне ў Беларусі забароненае, і тым самым байкерам за гэта часта перападае на гарэхі.

Зараз скутклюб зьдзяйсьняе ўласную, незалежную палітыку: байкеры байкерамі, а ў скутэрыстаў свае сьвяты. 23 красавіка ўвесь перадавы сьвет адзначае дзень народзінаў Першага Матаролера - той самай Вэспы.

Гэта своеасаблівы Хэлоўін. Скутэрысты апранаюць маскі, разьяжджаюць у маскараднай вопратцы. Ладзяць усялякія спаборніцтвы і конкурсы. Сьвяткаваньне доўжыцца цэлыя содні. Нешта падобнае спрабаваў зрабіць сёлета і Алег Карцаў, прэзыдэнт менскага скутклюбу. А 10-й раніцы побач з помнікам Калініну пачалі зьбірацца скутэрысты, каб потым паехаць на стрэльбішча, дзе праводзілася... страляніна з Калашнікава і СВД (снайпэрскай вінтоўкі Дзегцярова). Мабыць, кіраўніцтва клюбу лічыць уменьне адстрэльвацца адной з найважнейшых якасьцяў скутэрыста. Вядома, сьвяткаваньне ніяк не паходзіла на пачатак фільма "Таксі", але ж 50 скутэрыстаў, што разьяжджаюць па Менску калёнай - гэта ўжо прыгожа.



Афіцыйная задача скутклюбу - аб'ядноўваць скутэрыстаў Менску і прасоўваць гэтую тэхніку ў масы. Ужо зараз у клюб уваходзяць і банкіры, і студэнты. Тут жа заўважаны галоўны лепрыконс краіны Ілюля Міцько, часам зьяўляецца сярод скутэрыстаў і дыджэйка Сьнегіна. У яе яшчэ няма ўласнага скутэра, але яна добра кіруе тым, што ёй даюць. Зьнешне ўсё выглядае міленька і багемна. Але нават дзеці ведаюць, што

**БЕЗ ПРАБЛЕМАЎ**

толькі мухі плодзяцца. Калі прыпаркавацца са скутэрам можна дзе заўгодна, то, вярнуўшыся, знайсьці апарат бывае праблематычна. Мінулым летам Карцаў з жонкай паехалі на Камароўку. Вяртаючыся з рынку, Алег быў шакаваны нават ня тым, што ягоны скутэр спрабавалі скрасьці, а тым, як гэта рабілі: па дошках, пакладзеных будаўнікамі праз траншэі, якісь з ног да галавы зататуяваны аб'ект пад пахай нясе Ямаху вагой амаль цэнтнэр. Пасьля дзьвюххвіліннага выяўленьня ўладальніка скутэра злодзей ляжаў на зямлі, а два кавуны, якія нес Алег, былі разьбітыя. Татуяванае цела, пасьля таго як абтрэслася і папрасіла прабачэньня, зьнікла, каб празь некалькі хвілін вярнуцца з кавуном на 12 кг і сакрамэнтальнай фразай: "Ну, ня выгарала - дык ня выгарала..."

Да ўсяго, культура кіраваньня ў Менску пакідае жадаць лепшага. Вялізную небясьпеку ўяўляюць дарагія іншамаркі з жанчынамі за рулём. Няхай мяне зьвінавацяць у фалацэнтрызме, але я лічу, што мужчыны, парушаючы ПДР, робяць гэта па-варварску груба і прыгожа, з такім разьлікам, каб нічога ня здарылася з машынай. Жанчына ж нават не здагадваецца, што нешта парушыла. 27 красавіка прэзыдэнт скутклюбу цудам не застаўся са сваім скутэрам на бампэры машыны, якой кіравала жанчына.

Пранесьціся па праспэкце на чырвонае сьвятло з хуткасьцю за 100 км/г можа толькі жанчына. Ад сутыкненьня Карцава выратавала тое, што ён пасьпеў заваліць скутэр на бок. Пасьля гэтага выпадку Алег раптам стаў гарачым прыхільнікам язды ў шлеме.

**ТЫМ, ХТО ПРАНІКСЯ**

ідэяй скутэрызму, застаецца толькі набыць сабе "зэдлік": добры б/у-японец каштуе 600-800$, эўрапеец - 1500$. Усё тое, што таньней, па словах Алега Карцава, "ламачча, якое пасьпяшаліся хутчэй прадаць". Але азіята да 50 см3 пры вялікім жаданьні можна ўзяць і за 200$. Гэтыя апараты сёньня самыя распаўсюджаныя ў Менску. Яны самыя танныя, і езьдзіць на іх можна без правоў. Хаця ні пра які кайф ад язды тут казаць нельга. Гэтыя скутэры разьлічаныя на нізкаросьлых людзей, і нармальнаму беларусу, седзячы на іх, зручна хіба што чухаць каленкамі вушы.

Потым, каб граматна затусавацца, ня трэба кідацца пад колы кожнага скутэра. Месцам збору на гэты сэзон выбрана пляцоўка ля рэстарацыі "Каньён", што на Талбухіна. Магчыма, 23 красавіка 2003 г. па Менску будзе ехаць калёна ўжо не зь дзясяткаў, а з сотняў скутэраў.



**Алесь Міхайлоўскі**

# PIN-UP

## эротыку - у масы

*Pin-Up - прымацаваная на сьцяну часопісная выразка з выявай прыгажуні. У шырокім разуменьні слова - проста прыгожая і прывабная дзяўчына*



**Бывае мастацтва для народу, а бывае для тых, хто ад народу "страшна далёкі". Другое складуецца ў музэях, прыватных мільянэрскіх калекцыях і іншых храмах мастацтва. Большасьць насельнікаў плянэты верыць у тое, што гэта і ёсьць сапраўднае мастацтва. Але верыць на слова. Сярэднестатыстычны зямлянін, упершыню пабачыўшы "Джаконду", наўрад ці зможа адразу ўсьвядоміць усю ейную веліч. Сёньня паразмаўляем пра мастацтва народнае - ня ў тым сэнсе, што народам створанае, а ў тым, што для народа.**

**Народ жа заўсёды любіў карцінкі. І ў Паўночнаамэрыканскіх Штатах, дзе ўсім заўсёды кіравалі грошы, у сярэдзіне мінулага стагодзьдзя было вырашана задаволіць гэтую патрэбу. Так зьявіўся Pin-Up - жанр для мужчын. (Хаця калі згадаць нядаўняе пераможнае шэсьце па плянэце Барбі, то і для жанчын таксама.)**

### ПАЧАТАК

гэтага не зусім звычайнага жанру маскульту можна адшукаць у эўрапейскай гравюры. Першы плякат-гравюра, дзе аголеная жаночая фактура была выкарыстаная ў "рэклямных" мэтах, датуецца 1491 годам. На гэтай, хоць і вельмі "сырой", але ўжо рэкляме бэльгійскага выданьня "Tean d'Arras. Histoire de la Belle Melusine" была намаляваная галоўная гераіня, Мэлузіна, якая прымала ванну. Прататып Pin-Up можна ўбачыць і ў знакамітых сэрыях гравюраў ангельца Ўільяма Хогарта - "A Harlot's Progress" і "A Rake's Progress": калі абстрагавацца ад вульгарнага кантэксту, то асобна ўзятыя выявы жанчын зь лёгкасьцю можна прапісаць у Pin-Up.

Аднак нягледзячы на тое, што карані гэтай культуры палягаюць у эўрапейскай графічнай традыцыі, Pin-Up як самастойны жанр зьявіўся ў Амэрыцы. Большасьць амэрыканцаў, што жылі ў апошняй чвэрці XIX - першай палове XX стст., ня мелі магчымасьці наведваць музэі і галерэі. Адзіным даступным відам мастацтва была ілюстрацыя. Хуткае засяленьне Амэрыкі й вострая неабходнасьць у пашырэньні сродкаў камунікацыі прывялі да зьяўленьня вялікай колькасьці пэрыядычных выданьняў. Што і падштурхнула выдаўцоў да стварэньня ілюстрацыі-"спадарожніка": стала відавочна, што рэпартаж ці крымінальная гісторыя болей заінтрыгуюць чытача, калі іх будзе суправаджаць візуальны шэраг.

Ідэя першага эратычнага малюнка доўга лунала ў загазаваным паветры амэрыканскіх мэгаполісаў, стомленых біржавым крызысам 30-х. І далуналася. Спэцыялісты кампаніі Coca-Cola для рэкламы ўласнай прадукцыі прыдумалі новы спосаб часопіснай ілюстрацыі. Як і ўсё геніяльнае, задумка была надзвычай простая. Адзін да аднаго перамалёўваўся фатаздымак прывабнай дзяўчыны (існуюць нават легенды, што часам фарбы наносіліся проста на фота). Цымус заключаўся ў тым, што амэрыканскія прыгажуні тых часоў былі зьнятыя ў пікантна-эратычных сытуацыях. Сукенка разьвявалася на ветры, спадніца выпадкова за нешта чаплялася і рвалася, а сьвятло дзьвярнога прахону наскрозь пранізвала тканіну пэнюара. Для малюнка, аднак, выбіраўся момант, калі нельга было ўбачыць нічога "гэткага".



Арт Фрам

### ЦЕЛА як ВОКЛАДКА

У 1929 годзе канкурэнцыя паміж выдавецтвамі дасягнула той важнай кропкі, адкуль, уласна кажучы, і пачынаецца адлік Залатога веку амэрыканскай ілюстрацыі, які доўжыўся амаль 40 год. У рэдакцыі часопіса "Life" першымі здагадаліся, што эратычная прыгажуня на вокладцы можа быць важным point-of-sale. Элегантная маляваная "лялька" кідала з глянцавай вокладкі нявінна-сэксуальны позірк, нібы заклікаючы: "Падабаюся? Купі мяне, хлапец!". Хітрык спрацаваў. Хоць вобраз сэксапілкі ніякім чынам не стасаваўся са зьместам, нумар "Life" разышоўся імгненна. Ідэя Pin-Up забясьпечыла часопісу мільённыя наклады, а яго гаспадару - шалёныя грошы ад рэкламы.




Георг Кунтана

По хуткім часе зьяўляецца безьліч адмысловых Pin-Up часопісаў. У 20-х - 30-х гг. такія выданьні, як Film Fun, Movie Humor, Gay Book, стракацелі напаўапранутымі зоркамі кіно і шоў-гёрлз. Потым, у 40-50-х, большасьць часопісаў гэткага кшталту выпускалася выдавецкім домам Робэрта Гарысана: Beauty Parade, Eyerful, Flirt, Wink, Titter, Whisper. Цікавасьць да аголенай натуры была заўважаная і з боку больш салідных пэрыёдыкаў: "The




Эрл Бэргей


Арт Фрам


Эдвард Ранч

Saturday Evening Post", "Liberty", "Ladies Home Journal", "Cosmopolitan", "Vogue", "Esquire". Нават высакалобы "Time" надрукаваў у 1941 годзе на вокладцы выяву Рыты Хэйвард, намаляваную мастаком Джор-джам Пэці, які лічыцца бацькам амэрыканскага Pin-Up.

## ПРЫКОЛьныя ДЗЯЎЧАТЫ

Вырашальным момантам у раскрутцы Pin-Up сталіся постэры. Гэтая ўстаўка ў сярэдзіне часопіса вымалася, устаўлялася ў раму ці проста выразалася па контуры і вешалася на сьцяну. Адсюль і назва: Pin-Up Girl значыць нешта накшталт "дзяўчаты, прыколатыя да сьцяны". Альбо проста "прыкольная дзяўчына". Сэксапільныя лэдзі цяпер упрыгожвалі сьцены халасьцяцкіх кватэраў, гаражоў, салдацкіх казармаў і матроскіх кают.

Аднак самай распаўсюджанай формай тыражаваньня Pin-Up сталіся календары памерам ад 5.1x7.6 да 50.8x76.2 см - так званыя handers. Менавіта ў 30-40-х, дзякуючы Pin-Up, упершыню зьявіўся 12-палосны перакідны каляндар, безь якога цяжка сёньня ўявіць офіс нават самай зачуханай канторы.

Pin-Up тыражаваўся таксама праз т.зв. art-cards, якія прадаваліся мільёнными накладамі. Гэтыя карцінкі, крыху меншыя за паштоўку, у пэрыяд з 1930 па 1950 гг. вырасьлі ў кошце з 1 да 5 цэнтаў за штуку.

## PIN-UP як БІЗНЭС

Так, Pin-Up хутка пачаў прыцягваць грошы. Калода ігральных карт з "агалёнкай" ад Э.Макфэрсана ў 1944 годзе разышлася накладам 168.000 асобнікаў! Pin-Up малюнак на вокладцы часопіса складаў часам да паловы бюджэту ўсяго выданьня. Пра кар'еру Pin-Up Baby марыла кожная "штучка". Анягож! Толькі за адзін сэанс пазіраваньня дзяўчыне плацілі каля 500$.

Літаральна на вачох сфармаваўся перадавы атрад найлепшых Pin-Up мадэляў. Мэрылін Манро, Бэці Пэйдж, Рыта Хэйварт сталі The Great American Pin-Up Girls. Існуе меркаваньне, што менавіта свайму зьяўленьню ў якасьці Pin-Up мадэлі Мэрылін абавязаная статусам амэрыканскага сэкс-сымбалю.

З 1920 па 1970 гг. некалькі сотняў мастакоў працавалі на пэрыядычныя выданьні: Джыл Ілвгрын, Гары Экман, Пол Корфілд, Пэрл Фраш, Пітэр Дрыбэн, Эдвард Ранч... Попыт на Pin-Up падтрымліваўся ня толькі часопісамі ды выдавецтвамі. Мастакаў запрашалі і рэкламныя агенцыі, якія па кока-кольнай традыцыі карысталіся Pin-Up'ам для прасоўваньня тавараў на рынак. Хто ведае, дзе сёньня былі б тыя самыя Kodak і General Motors, калі б ня sexy babes.

Але нягледзячы на тое, што ў жанры Pin-Up працавала столькі яркіх мастакоў, асноўны масіў малюнкаў застаецца "безыменным". Звычай мастакі аддавалі свае працы выдаўцам у абмен на ганарар і рэдка прасілі вярнуць арыгіналы назад. Акром таго, аўтары ніколі не давалі назваў сваім творам. "Імёны" тыя атрымлівалі ад выдаўцоў ці вытворцаў - то бок ад тых, хто "замаўляў музыку". Адзін і той жа малюнак мог быць надрукаваны ў розных выданьнях пад рознымі назвамі.

Пітэр Дрыбэн


Энч Болз


Джойс Балянтан

## ЗАКОНЫ ЖАНРУ

Разглядаючы пацямнелыя ад часу парнаграфічныя фатаздымкі 20-х з выявамі манэжных распранутых пакаёвак - мэлянхалічных, разбэшчаных, тлуставатых, з грудзямі, якія ўжо зазналі ўзьдзеяньне закону гравітацыі, - штораз адчуваеш лёгкую гідлівасьць да куртызанак, што пазіравалі топлес. Аналягі гэтай прадукцыі ў незьлічонай колькасьці водзяцца і сёньня на рынку інтэрнэт-порна. Pin-Up стаўся здаровай антытэзай парнусе 20-х. Зьяўленьне раскошных Pin-Up Girls было для амэрыканцаў глытком сьвежага паветра. Гэтыя дзяўчаты не зрывалі бюстгальтараў, не прымалі распусных позаў, не глядзелі драпежнымі вачыма. Іхныя позіркі поўныя добразычлівасьці й натуральнага баламуцтва. І тым болей хацелася на іх глядзець.

Эратызм Pin-Up надзвычай мяккі і не нясе ярка выражанай правакацыі лібіда. Pin-Up - хутчэй невялікія сюжэтныя замалёўкі на пабытовыя тэмы, якія нярэдка маюць іранічнае адценьне. Толькі самыя адчайныя мастакі маглі дазволіць сабе ў 30-х намаляваць агаленыя грудзі, ня кажучы ўжо пра ўсё астатняе - прарыў у гэтым кірунку адбудзецца пазьней, у сярэдзіне 50-х, напярэдадні сэксуальнае рэвалюцыі. Але і тады Pin-Up так і не пераступіць мяжу, што аддзяляе эротыку ад порна.

Сёй-той з мастацтвазнаўцаў лічыць, што адсутнасьць поўнай "агалёнкі" ў Pin-Up замацавалася менавіта таму, што прыстойная Амэрыка не пацярпела б такога адкрытага полавага беспарадку. Можа, яно й так. Але справа ня толькі ў цэнзуры - стваральнікі першых маляваных дзяўчынак добра ўяўлялі сабе, на што варта зрабіць акцэнт, каб выклікаць у мужчыны-чытача лёгкую хвалю ўзбуджэньня: агаленыя плячук, прыпаднятая спаднічка, крыху прыспушчаныя панчошкі... Таямніца спакушае болей за стоадсоткавае агаленьне. Pin-Up - гэта мастацтва добра прадуманай дэталі.

Магчыма, увядзеньне прыгажуні ў добра знаёмы гледачу пабытовы кантэкст дапамагло гэтаму жанру захаваць балянс паміж рамантычнымі мроямі ды вульгарнай эротыкай. Да таго ж, Pin-Up культываваў пэўны жаночы тып - сэксапільнай, упэўненай у сабе, жыцьцярадаснай, мэтанакіраванай дзяўчыны, што цалкам адпавядала амэрыканскаму ідэалу.

## ДРУГАЯ СУСЬВЕТНАЯ

Тое, за што Амэрыка да сёньня добрым словам згадвае маляваных лялек, здарылася ў 40-я гады мінулага стагодзьдзя. Гэтым белазубым баламуткам амэрыканцы ўсур'ёз прыпісваюць нацыянальны подзьвіг. Амэрыка ўступіла ў Другую Сусьветную вайну ў сьнежні 1941-га. Вялізная колькасьць амэрыканскіх мужчын сышла на фронт, адарваўшыся ад спакушальных пяшчотаў сваіх сябровак. Гэты факт засмуціў амэрыканскае грамадзтва, якое прывыкла бачыць сваіх boys у атачэньні сымпатычных дамачак, але не братоў па зброі.

Закліканыя выратаваць абаронцаў Айчыны ад спакусаў "блакітнага каханьня", Pin-Up Girls у вялікай колькасьці сталі друкавацца ў часопісах і календарах, што распаўсюджваліся ў дзеючым войску. А па хуткім часе яны перакачавалі са старонак календароў на крылы летакоў, вежы танкаў і гільзы снарадаў. Нават на атамную бомбу, скінутую на Нагасакі, нейкі празьмерна ўзбуджаны вяка наляпіў пекную Рыту Хэйварт. Pin-Up дзяўчынкі былі побач са сваімі баявымі сябрамі і ў атаках, і ў хвіліны адпачынку: салдацкі паёк, апроч неабходных кожнаму нармалёваму вяару масла, хлеба ды тушонкі, нязьменна ўтрымліваў інтымна-ўзбуджальны дэсэрт - печыва з намаляванай на абгортцы пышнацелай бляндынкай, плітку шакаляду з выявай сэксапілкі. Пытаньне пра падтрымку ў войску гетэрасэксуальных настрояў вырашалася на самым высокім узроўні. І вырашалася, трэба сказаць, тонка і далікатна. Можа, менавіта таму Амэрыка выйшла з той вайны ўладальніцай сямі мораў, супэрдзяржавай з адладжанай ваеннай машынай, манаполіяй на ядравую зброю, вялікім уплывам на нафтаносным Сярэднім Усходзе і выдатным генафондам.

## Я цябе НАРАДЗІЎ...


Джыл Элгрын



Эл Мур

Нарадзіўшыся з фатаздымка, маляваны Pin-Up існаваў і разьвіваўся паралельна фатаграфічнаму, і гэтыя кірункі доўгі час не складалі адно аднаму канкурэнцыі. Аднак у 60-х пачалося імклівае разьвіцьцё якаснага каляровага фатаздымка. Рашучым паваротам ад малюнка да фота стаў 1964 г., калі фабрыкант Парэлі замовіў першы фірмовы фатаграфічны Pin-Up каляндар для сваёй кампаніі. Робэрт Фрыман (той самы, што працаваў фатографам зь "Бітлз") выдатна справіўся з заданьнем, і да сярэдзіны 70-х гг. практычна ўсе амэрыканскія выдаўцы перайшлі на фатаграфаваны Pin-Up. Формы, у якія разьвіўся апошні, сёньня нам добра вядомыя.

Pin-Up Girls сталіся прататыпам цэлай пляяды раскошных Playboy Girls, апярэдзіўшы на многія гады стыль вядомага мужчынскага часопіса. А потым... потым фатаграфічны "Плэйбой" і шматлікія гламурныя часопісы паглынулі індустрыю малюнка, забіўшы Pin-Up як зьяву. Здавалася, назаўсёды...

Дзесяцігодзьдзе напярэдадні падзеньня бэрлінскай сьцяны набыло сваё цела ў коле іншых праблем. Сфэрай, дзе мусіў адбыцца цуд, стаў мастацкі фатаздымак. Хельмут Ньютан і Робэрт Мэплтроп падаравалі целу новую сэксуальнасьць, заснаваную не на пошуку нестандартных тыпажоў, а на карпатлівым вывучэньні характару ўжо знаёмай формы. Аднак 80-м так і не ўдалося атрымаць асалоду ад геданістычнай пачуцьцёвасьці спакушальнага цела. Змрочным прывідам на чалавецтва абрынуўся СНІД, пагражаючы разрасьціся да памераў сусьветнае катастрофы. І абываталь з жахам адхіснуўся ад выкшталцоных фатаграфічных студыяў.

Цяпер сьвет быў ахоплены новай модай: усе сачылі за здароўем і шанавалі ўласнае цела. Ня есьці абы-што і ня спаць зь першым-лепшым - такі быў лёзунг новага дзесяцігодзьдзя. Пакаленьне пачатку 90-х выпеставала фізічна дасканалае цела, якое апынулася прыдатным хіба што для спартовых экзэрсісаў. Формы, якія яшчэ захоўвалі сваю эратычную прывабнасьць, імкліва гублялі сэксуальную агрэсіўнасьць.

Наступны крок, зроблены сусьветнай модай у сярэдзіне 90-х, пазбавіў яе герояў і гэтага апошняга прывілею. Тон цяпер задавала супэрзорка Кейт Мос, якая прадэманстравала агаломшаной публіцы новы тып цялеснай прывабнасьці. Учорашнія прыгажуні былі амаль цалкам выціснутыя хірымі замарашкамі. Іхны хваравіты целасклад ужо зусім не стасаваўся з абывательскімі ўяўленьнямі пра прыгажосьць. І нам, пакаленьню Pepsi Light, Always і hardcore-сайтаў, засталося толькі настальгаваць па дзіцячай эротыцы часоў пышнацелых Pin-Up Girls... ▶▶

[падрыхтаваў INCONNU]



Эдвард Ранч




Джыл Ілгрын



Джыл Ілгрын

## TO BE CONTINUED...

Праз нейкія 15-20 год пасьля клінічнай сьмерці Pin-Up памянёны "Плэйбой" вырашыў рэанімаваць жанр. Які́м бы дэталёвым і рэальным ня быў фатаздымак, але малюнак дае больш свабоды для фантазіі мастака. Да таго ж, жаночае цела ў рамках новай амэрыканскай культуры ўжо не прыкрывалася гэтак старанна, як раней. Так зьявіўся New Pin-Up, які з новай сілай уварваўся ў сьвет паліграфіі. І зараз ужо шмат у каго на слыху такія мастакі, як Хаджымэ Сараяма (Hajime Sorayama), Алівія дэ Бэрардзініс (Olivia de Berardinis) і іншыя.

### *Хаджымэ Сараяма*

*Вельмі высокая тэхніка выкананьня: нават людзей, далёкіх ад жывапісу, захапляе рэалістычнасьць карцін. Гэта ўжо не дзяўчаты 30-х - сюжэты, позы, выразы твараў і іншыя атрыбуты Pin-Up упісваюцца ў тэматыку "Плэйбоя". Тыя, хто знаёмы з працамі Сараямы, напэўна, бачылі й ягоныя фэнтэзі-калекцыі - напрыклад, "Робатаў" (робаты-людзі, робаты-рыбы, робаты-дыназаўры і г.д.).*







### *Алівія дэ Бэрардзініс*

*Жаночы погляд на сучасны Pin-Up. Мяккі, вытанчаны, адразу прыняты публікай малюнак. Шматлікія працы выкананыя толькі ў графіцы, але гэтак якасна, што колеру і не патрабуюць.*







# ДЭВІД ЛІНЧ

# па дарозе на MULHOLLAND DRIVE

**Зараз яму блізу 60. Ён жыве на старой ціхай вулцы Бэвэрлі-Хілз, непадалёк ад мясцовай трупярні. "Я - геній, а ў кожнага з нас бываюць свае дзівосы. Я, напрыклад, люблю глядзець на дым крэматорыю", - кажа Дэвід Лінч. Ягоны дом выглядае злавесна. Там амаль няма вокнаў, але на сьценах вісяць усё тыя ж "арганічныя канструктары", напрыклад, "пчаліная дошка". На ёй прышпіленыя засушаныя пчолы, пад кожнай зь якіх - мініятурная шыльдачка: "Сэм", "Х'ю", "Джым".**
**Хіба што пасьля прэм'еры новага бэстсэлера Лінча Mulholland Drive многія скажуць, што ранейшыя ягоныя фільмы можна прышпіліць да сьценкі нават бяз шыльдачак: усё адно яны - як фон да апошняй мроі Лінча, якая магла быць бясконцай...**

**"Гісторыя каханьня, якая разыгралася ў краіне сноў", - так ляканічна вы называеце свой новы фільм Mulholland Drive. У вас яшчэ не зьявілася ахвоты распавесьці пра яго крыху больш падрабязна?**
- Часта лепей ведаць менш, чым больш, тады застаецца месца для інтэрпрэтацыі. Я не хачу абмяжоўваць уяўленьне гледача і гаварыць, якой дарогай ён мусіць пайсьці. Для разуменьня тэксту можна карыстацца інтэлектам, а найлепш даверыцца патэнцыялу сваёй інтуіцыі. І я не хацеў бы абмяжоўваць яе якімісь словамі.

**Але так вы пакідаеце поле для розных, часам вельмі дзіўных інтэрпрэтацый. Адзін знаны амэрыканскі прафэсар піша пра Twin Peaks, што гэта "адна з рэклямных кампаній амэрыканскай дрэваапрацоўчай прамысловасьці".**
- Тое, што людзі тлумачаць мае фільмы на розны манэр, цалкам натуральна. Эмацыйны ўсплеск пасьля прагляду мастацкага фільму, перажываньні, якія ён выклікае, будзяць інтэлект у розных людзей па-рознаму.

**Іншыя кажуць: "Нічога ў гэтым фільме не зразумеў, але ён мне спадабаўся".**
- Мне гэта не перашкаджае. Такія апошведы я ўспрымаю як камплімэнт. Калі б нехта сказаў: "Нічога не зразумеў, але ня надта і хацелася", тады было б значна горш.
Фільм нельга ўспрымаць толькі інтэлектуальна - тады па-за вашай увагай застанецца шмат цікавага. Чалавек ня мусіць нічым абмяжоўваць сваё ўяўленьне. Але, да жалю, большасьць фільмаў не патрабуе ўдзелу ва ўспрыняцьці інтуіцыі. Таму мы развучыліся мысьліць абстрактна.

**А што вы думаеце пра сымбалі, якія зьяўляюцца ў фільмах?**
- Ніколі не спрабаваў іх вытлумачыць. Гэта было б якраз абмежаваньнем маіх ведаў і ўяўленьняў. Не хачу, не жадаю, каб нехта тлумачыў мне, што такое "8 1/2" - я маю сваю інтэрпрэтацыю на гэты конт. Хачу штоpазу глядзець гэты фільм і адкрываць для сябе нешта новае.

**Як праходзіць напісаньне сцэнару?**
- Гэта арганічны працэс. Пачынаецца ён з адзінай ідэі. Гэта можа быць нейкі гук, прадмет, тэлефонная размова, выпадкова ўбачаная постаць. Проста аднойчы ўночы ў маёй галаве зьяўляецца каўбой. І я ведаю, што дагэтуль яго там не было. Ён уваходзіць і пачынае гаварыць. Мне застаецца толькі запісваць ягоныя словы. Часта нават не ўяўляю, як гэты фрагмэнт будзе выкарыстаны ў фільме, ці будзе выкарыстаны наагул, як яго зьвязаць з усім сцэнарам. Але паступова ўсё становіцца на свае месцы, і з асобных прыходаў начнога каўбоя, з асобных элемэнтаў, як мазаіка, ствараецца адзінае цэлае.

**Ідэі фільмаў звычайна прыходзяць да вас падчас сну?**
- Гэта можа здарыцца ў любы момант. У гэты момант у тваёй галаве ніводнай думкі, а ў наступную сэкунду папросту ня ведаеш, куды ад іх можна падзецца. Усе ідэі прыходзяць "адтуль". Часта яны ўяўляюцца мне рыбамі, якія плаваюць у вялікім акіяне. Аднойчы ўдаецца злавіць выключна пекную рыбіну. Прыглядаесься да яе і хутка знаходзіш яшчэ некалькі зь яе ж радні, цэлы вывадак... рыбы пачынаюць расьці, і так працягваецца нават па сканчэньні працы.

**А якой была першая рыбіна, што злавілі гэтым разам?**
- Пачалося ўсё са словаў Mulholland Drive. Пазьней уявіў сабе дарожны знак з назвай вуліцы, такім, які ён у першых кадрах фільму. Mulholland Drive - гэта вельмі крутая дарога на ўзвышшы, што раскінулася над Галівудам. Уночы там пануе поўны змрок. Адзінае, што можна ўбачыць у далечыні - агні вялікага гораду.

**Матыў дарогі зьяўляецца ўва многіх вашых фільмах.**
- Дарога - гэта нешта такое, што прымушае нас рухацца наперад, адкрываць непазнанае. Ніколі ня ведаеш, што хаваецца за наступ-

ным паваротам. Дарога дае нам жыцьцё, не дае заставацца на адным месцы.

**Аднак у "Простай гісторыі" яна не была такой таямнічай, хутчэй яна была простай і сонечнай.**

Калі я працаваў над Mulholland Drive, то бесперапынна думаў пра Білі Ўілдэры. На здымачнай пляцоўцы я пастаянна ўяўляў, як з брамы "Парамаўнту" выходзіла ў "Бульвары" Глёрыя Свэнсан. Галівуду, якім яго стварыў Ўілдэр, ніколі не існавала, але менавіта ён спрыяў стварэньню міта пра "фабрыку мрояў", які існуе аж да сёньня.

**ПРА ШТО ВЯДЗЕЦЦА Ў MULHOLLAND DRIVE?**

**Як і заўжды ў Лінча, ні ў чым нельга быць да канца ўпэўненым. У цэлым гаворка ідзе пра тое, як у Галівуд прыяжджае адна маладая бляндынка Бэці (Naomi Watts), якая хоча стаць зоркай. Яна спыняецца ў кватэры сваёй цёткі, якая, ясная справа, таксама акторка.**

**Другі вобраз – брунэтка Рыта (Laura Harring), зь якой мы знаёмімся, калі адзін з удзельнікаў аўтамабільнай аварыі выратоўвае ёй жыцьцё. Потым яна трапляе ў чыюсьці кватэру. Гэта кватэра першай гераіні – бляндынкі.**

**Далей пачынаецца самае цікавае...**

**Вы належыце да той касты шчасьліўчыкаў, якія затрымаліся на фабрыцы надоўга.**

- Я жыву ў Лёс-Анджэлесе з 1970. У той час я вучыўся ў інстытуце сінэматаграфіі. Мяркую, кожны мусіць знайсьці сабе месца на Зямлі, дзе б пачуваўся шчасьлівым і вольным, каб эфэктыўна працаваць і ня думаць пра самагубства. Для мяне такое месца - Лёс-Анджэлес. Я люблю яго і не магу патлумачыць, чаму. Гэта хутчэй інтуіцыя: тут і смог, і бандзюгі, але разам з тым атмасфэра аптымізму, які хочацца ўдыхаць усім целам.

- Гісторыя напісаньня "Простай гісторыі" зьявілася неспадзявана. Напачатку я сам не пачуваўся перакананым у ёй. Некаторыя мае фільмы зьвязаныя з папярэднімі ці з наступнымі, але гэта ідыёцтва - не спрабаваць зрабіць нешта новае і іншае. З фільмамі так, як з жанчынамі. Можна быць прыхільнікам брунэтак, але аднойчы на дарозе нечакана зьяўляецца чароўная бляндынка...

**Таму ў Mulholland Drive і брунэткі і бляндынкі?**

- Гэта не было заплянавана. Гэтыя вобразы ствараліся незалежна адзін ад аднога, але я задаволены вынікамі кантрасту. Гэтыя жанчыны - антыподы, процілегласьці, а менавіта гэта прыцягвае.

**Часам да такой ступені, што даходзіць да інтымнай блізасьці.**

- Mulholland Drive - гісторыя каханьня.

**У вашым бачаньні Галівуду адчуваецца нейкая настальгія. Вы выпадкова не прыхільнік клясычных фільмаў "фабрыкі мрояў"?**

- Так, але толькі аднаго - "Бульвару заходзячага сонца". Гэта адзін з самых маіх любімых фільмаў.

**Як і сам фільм, гісторыю здымкі Mulholland Drive простай не назавеш.**

- Пачалося ўсё з таго, што для ABC быў зроблены рэклямны ролік новага сэрыялу. Кіраўніцтва станцыі яго адхіліла. Мяне папрасілі штосьці скараціць, а некалькі сцэн дадаць. Я адмовіўся. Праект замарозілі, і я пачаў здымаць "Простую гісторыю". Сэрыялам тым часам цікавіліся іншыя станцыі, але зь ніводнай мы не знайшлі паразуменьня.

**Па чутках, якія пераказаў "Нью-Ёркер", сэрыял мусіў пачацца з таго, што жанчына трапляе ў аварыю на лёс-анджэлескім бульвары Малхоланд Драйв, пасьля чаго ў яе пачынаецца амнэзія. Такая стандартная "мыльная опэра", замяшаная на зьдзеках з Галівуду, старлетцы-пачаткоўцы, псыхаваныя прадусары з маленькай галавой і рэжысэры, чый кінапраект зачыніла мафія.**
**Калі прадстаўнікі ABC пацікавіліся, як справы на здымачнай пляцоўцы, то мо-о-о-оцна зьдзівіліся. Іх зьдзіўляла ўсё - ад кастынгу да буйнога пляну сабачага дзярма. У выніку генію параілі скараціць кранамэтраж кіно са 125 хвілінаў да 88. Атрымалася наагул немаведама што: з кінафільму зьнікла сцэна, дзе адзін з герояў да сьмерці (літаральна) пужаецца бамжа, парослага грыбком, які выскоквае зь цемры. Прадстаўнікі ABC параіліся і вырашылі, што таньней будзе зачыніць праект.**



Калі ўсялякія надзеі былі згубленыя, да мяне зьвярнуўся французскі тэлеканал Studio Canal+, прадусары якога прапанавалі зрабіць з сэрыялу паўнамэтражны фільм. Я згадзіўся: каб працаваць эфэктыўна, мне патрэбная свабода, якую ніхто з амэрыканцаў мне даць ня мог.


Naomi Watts i Laura Harring

**Як розьніцца паўнамэтражны фільм Mulholland Drive ад першапачатковага сэрыялу?**

- У сэрыяле "адкрытае" заканчэньне, яго заўсёды можна працягнуць. У ім шмат незавершаных сюжэтных ліній, недапрацаваных матываў. Калі мне прапанавалі ператварыць яго ў паўнамэтражны мастацкі фільм, я зразумеў, як многа тут нясконачанай працы. Дзеяньні і вобразы чакалі свайго разьвіцьця. Перад маімі вачыма паўстала зусім іншая структура. Я раптам уцяміў, што фільм адпачатку хацеў быць такім, якім зрабіўся зараз. Адпачатку ён трымаў у сабе тую ідэальную форму, якую прыняў у канчатковым варыянце.

**А з тэхнічнага пункту погляду?**

- Для мяне сэрыял розьніцца ад вялікага фільму толькі тым, што першы дэманструюць праз маленькую скрынку зь ня самым лепшым гукам. Але, нягледзячы на гэта, я працаваў з Twin Peaks і Mulholland Drive як з шырокаэкраннымі фільмамі.

**Падаецца, падчас стварэньня Twin Peaks вам удавалася пазьбягаць цэнзуры, а вось у Mulholland Drive, кажуць, многія сцэны папросту не прайшлі.**

- Ад часоў Twin Peaks тэлеіндустрыя моцна зьмянілася. Ужо тады я меў шмат клопату з цэнзурай. Зараз жа было нашмат болей складана. Я мусіў доўга спрачацца за тое, каб адзін з герояў меў права папаліць у кадры. Кадр згадзіліся пакінуць пры ўмове, што ў наступным эпізодзе той самы герой будзе задыхацца ад дыму тытуню.

**Чаму вы час ад часу згаджаецеся працаваць для тэлевізіі?**

- Яна прывабіла мяне сваімі магчымасьцямі апавядаць бясконцую гісторыю. Калі доўга працуеш над сэрыялам, знаходзіська ў супольнасьці аднадумцаў, тых, кім захапляесься, з кім цікава размаўляць на розныя тэмы. Як скончыш сэрыял, то не сумуеш па страце такіх людзей, бо ведаеш, што ў любы момант можаш зрабіць працяг. Сэрыялы вечныя, і гэта цудоўна.

Калі глядзіш фільм, кахаеш жанчыну, то думаеш: "Гэта назаўжды" , але насамрэч калі-кольвек мусіш убачыць апошні тытр - "канец".

*Падрыхтавана О.С.*

MULHOLLAND DRIVE

# АНТЫГЛЯБАЛІСТЫ...

ya_rasta@tut.by

АГЕНТЫ СЮРРЭАЛІСТЫЧНАЙ СПЭЦСЛУЖБЫ

**Маркс, сацыялізм, буржуазія і капіталізм - заходніх абываталяў зноў пачынае трэсьці ад лявацкай ліхаманкі, якая, не мінула і сарака год, адрадзілася ў новым выглядзе. Антыглябалісты - ня проста моладзь, незадаволеная ўстаноўленым сусьветным парадкам, які трэба адрынуць. Гэта частка таго самага парадку, адна зь яго храмасомаў.**

### ТЭОРЫІ ДВУБОЙЦАЎ

Антыглябалісты - гэта чарговыя наступнікі грандыёзнай міталягемы 1968 году. Пры гэтым яны не ўтвараюць ні студэнцкія гурткі, ні крымінальныя групоўкі, ні моладзевыя субкультуры, ні салёны, ні клюбы. Яны - "засланыя казачкі" сусьветнай рэвалюцыі.

Галоўнае для іх - прысвоіць любое асяродзьдзе (інфармацыйнае, фінансавае, ідэалягічнае, паліграфічнае, кінэматаграфічнае і г.д.), прыдатнае для радыкальнай практыкі. Перш чым пачынаць сур'ёзны двубой з сусьветнай алігархічнай дыктатурай, сучасны паўстанец павінен адвяваць дастатковую для пачатку вайны частку ляндшафту, неабходны рэсурс, своеасаблівы партызанскі тыл. Вось чаму часам антыглябалістам фармальна робіцца прадстаўнік прэсы, модны вэб-дызайнэр, актывіст якога-кольвек прыродаахоўчага фонду ці некамэрцыйны рэжысэр.

Аднак большасьць каардынатараў антыглябалісцкіх ініцыятываў - інтэлектуалы з дыплёмамі па "дакладных" навуках: біёлягі, эканамісты, хімікі, архітэктары і іншыя спэцыялісты па кампутарных вірусах. Яны забясьпечваюць г.зв. "тэхнічныя" ўмовы ажыцьцяўленьня антыглябалісцкіх выступаў. Вось як выказаўся адзін лёнданскі актывіст радыкальнай ініцыятывы "Вяртаньне на вуліцы": "Для мяне сплянаваць бузу ў цэнтры гораду, загадзя абхітрыць паліцыю, у правільным кірунку спраграмаваць камэнтары прэсы й выдаткаваць на ўсё гэта мінімальную колькасьць сродкаў і часу не складаней, чымся стварыць новую кампутарную гульню сярэдняй цяжкасьці".

Вядомая з 60-х карнавальнасьць і псыхадэлія акцыяў таксама нікуды не падзеліся. Лявацкая культура супрацьстаяньня ўзбагацілася за кошт цікавасьці да тэалёгіі лацінаамэрыканскіх "чырвоных каталікоў", індзейскіх "кактусавых" і "грыбных" культаў. Некаторыя антыглябалісты аддалі перавагу найбольш радыкальным і антыімпэрыялістычным вэрсіям культаў - "раста", "вуду". Сьпіс рэлігійных прыхільнасьцяў антыглябалістаў бясконцы: "эзатэрычныя" і "сацыялістычныя" вэрсіі ісламу, нэапаганства (разам зь левакамі ў акцыях бяруць удзел "друіды"), тэлемізму, краўліянства ці практыкі "ўсходніх тампліераў".

### МАРКАС І ЎСЕ, УСЕ, УСЕ







Прывід антыглябалізму залунаў над плянэтай у красавіку 1994, калі на поўдні Мэксыкі ў штаце Чыапас падняў індзейскае паўстаньне нікому датуль невядомы субкамандантэ Маркас. Паўстанцы называлі свайго правадыра "татам", то бок "продкам", і ўважалі за міталягічнага героя-выратавальніка. (Пазьней амэрыканскія і эўрапейскія антыглябалісты ў шчырых размовах "не для друку" прызнаваліся, што Маркас - гэта Джым Морысан, толькі закансьпіраваны - "каб не здагадаліся".)

Першыя ж публічныя заявы і адкрытыя лісты Маркаса, адрасаваныя топ-пэрсонам плянэты, захапілі левáрадыкалаў. Субкамандантэ сьцьвярджаў, што новая сусьветная вайна будзе грамадзянскай, лінія фронту ляжа між абуджаным насельніцтвам і транснацыянальнай буржуазіяй, на баку якой застануцца мэдыі і сілавыя структуры. Маркас заклікаў тых, хто спачувае антыглябалісцкім ідэям, выйсьці на кантакт зь ягонай "Сапацісцкай арміяй вызваленьня" і праявіць згоднасьць. Нягледзячы на ўсе намаганьні мэксыканскіх уладаў (70-тысячны вайсковы кантынгент) і ціск ЗША, раён штату Чыапас і да сёньня аўтаномны. Там нашчадкі майя будуюць свой загадкавы "сацыялізм", заснаваны на паўнаўладзьдзі "базавых камітэтаў", якія сапатысты параўноўваюць з бальшавіцкімі "саветамі".

У красавіку 2001 году Маркас, дэманструючы сваю моц і рашучасьць, узначаліў мірны "паход на Мэхіка". Да маршу далучыліся рэжысэр Олівер Стоўн, нобэлеўскі ляўрэат Жазэ Сарамага, удава прэзыдэнта Мітэрана, вядучы левы тэарэтык Францыі Рэжы Дэбрэ, рэдактар "Монд Дыпляматык" Ігнасіо Рамонэ, некалькі модных пісьменьнікаў і "чырвоных" дэпутатаў Эўрапарлямэнту. На мітынгу, дзе сабралася трыста тысяч чалавек, Маркас заявіў, што не зьбіраецца складаць зброю і "задавальняцца кампрамісамі". З чым і вярнуўся назад у Чыапас.

### ЧАГО ЯНЫ ХОЧУЦЬ?

Нягледзячы на відавочную разнашэрснасьць, стратэгія ва ўсіх адна. Самыя блізкія мэты - як мага хутчэй дэстабілізаваць дзейнасьць асобных карпарацыяў і іхных СМІ, вайна супраць Міжнароднага валютнага фонду, Сусьветнай гандлёвай арганізацыі, Сусьветнага банку, байкот і выкрыцьцё "сусьветнага рынку" плюс рэальная падтрымка супрацьстаяньня ў краінах "трэцяга сьвету". Інакш - "капіталізм - на могілкі" і пераход да больш справядлівай мадэлі грамадзкага ладу.

Назіральнікам удалося разгледзець у антыглябалізме радыкальную "галаву" і больш памяркоўнае "тулава". Галава як быццам за "міжнародную рэвалюцыю", а тулава - усяго толькі за выроўніваньне плянэтарнай няроўнасьці, за захаваньне "альтэрнатыўных цывілізацыяў" і інш. Але некаторыя сьцьвярджаюць, што "памяркоўныя" - нейкія левыя (не палітычна, а "па жыцьці") - гэта легальнае прыкрыцьцё радыкалаў, бо занадта невыразная між імі мяжа. Дый сама палеміка "меньшавікі- / бальшавікі-антыглябалісты" ня ставіць пад сумнеў магчымасьць "вялікага паўстаньня".

### НАШ АДРАС - У INTER-NE-T

Вэтэран ангельскага антыглябалісцкага руху Крыс Грымшоў лічыць, што пачынаць супрацьстаяньне сусьветнаму капіталу можна нават аднаму. Аднак больш зручна дзейнічаць нідзе не зарэгістраванай групай з 2-3 рашучых людзей, якія маюць доступ да інтэрнэту. Менавіта з такіх нябачных груповак-"атамаў" і склаўся ўвесь сучасны антыглябалісцкі рух.



Крыс Грымшоў супраць сусьветнага капіталу

Схема простая. Група, выходзячы з агульнага аналізу сытуацыі, абірае сабе даступную лякальную мэту (адну ці некалькі) і пачынае зь ёй "працаваць". Мэтамі могуць быць: канкрэтныя банкі, выдаўні, радыёстанцыі, кафэшкі й крамы, помнікі, асобныя паліттэхнолягі, журналісты, чыноўнікі і ўрад. У ход ідзе ўсё: графіці, піратэхніка, распаўсюд чутак, маральны ціск, мірная акупацыя аб'ектаў, блякада дарог, будоўля барыкадаў, нарэшце, прамое фізычнае ўзьдзеяньне.

Акцэнт робіцца на вытлумачэньні сваіх лякальных дзеяньняў праз прызму вялікай стратэгіі і асабліва на рэзанансе акцыяў у прэсе. Бо як толькі нейкая група пачынае дзейнічаць, яе шэрагі рэзка павялічваюцца, а на кантакт выходзяць дзясяткі іншых "атамаў".

Пры зьяўленьні новай групы ўлады пачынаюць "распрацоўку аб'екту", але вельмі часта гэта нагадвае сольны танец сьляпога слана на лёдзе: "пад раздачу" трапляюць усе, апрача герояў. Калі ж групу ўдаецца накрыць, яе актывісты хуценька разьбягаюцца па іншых "атамах" ці ствараюць новыя з улікам сумнага досьведу.

### Я - МУЖЫК-БЕЛАРУС

Пакуль спробы пратэставаць нешматлікай па-антыглябалісцку настроенай моладзі у Менску абмяжоўваюцца бяскрыўднымі сэйшнамі "для сваіх", дробнымі сутычкамі зь міліцыянтамі ды байкотам карпаратыўных прадуктаў. Адзіная менская кропка арганізаванага антыглябалісцкага супраціву - лявацкі "Чырвоны Жонд" - увесь час пашырае рамкі сваёй дзейнасьці ў вузкіх колах.





Скіны, на долю якіх у сьвеце прыходзіцца даволі значная частка антыглябалісцкіх выступаў, у Менску зараз маюць ня той узровень інфармаванасьці і арганізаванасьці, каб нечым праславіцца, акром "этнічных чыстак" на мясцовых барахолках. Зразумела, гаворка ня йдзе пра выведзены лябараторным шляхам у цяплічных умовах "Чырвоны Жонд" і таму досыць інфармаваных "артадаксальных" red skinheads...

Аднак, пакуль Беларусь не атрымала ад МВФ ніводнага значнага крэдыту, так і не зразумеўшы, з кім мы - з "другім" ці "трэцім" сьветам, ніякага доўгатэрміновага і масавага супраціву на гэтай тэрыторыі ня ўзьнікне. Рух антыглябалізму па-ранейшаму застанецца стыхійным і неўсьвядомленым. Ён будзе абмяжоўвацца эмацыйнымі і па-чалавечы зразумелымі ўчынкамі асобных грамадзянаў, якія не палянуюцца глыбокай ноччу выйсьці да МакДональдзу і кінуць у яго вітрыну свой камень, што калісьці можа легчы ў падмурак новага парадку.

АГЕНТЫ СЮРРЭАЛІСТЫЧНАЙ СПЭЦСЛУЖБЫ

ya_rasta@tut.by

АНТЫГЛЯБАЛІСТЫ...

# a-ha

## СКАНДЫНАЎСКІЯ САГІ

***"F...k you" – гэта самае брутальнае, што яны маглі б адказаць на ягоную прапанову знайсьці "самаму лепшаму гурту краіны" "нармальнага" вакаліста. Насамрэч хлопцы прапусьцілі гэтую заўвагу міма вушэй: The bridges, чый альбом быў выдадзены накладам у 1000 асобнікаў і распрададзены ў роднай Нарвэгіі на "ўра", мелі права сказаць невядомаму вакалісту блюзавай каманды Soldier blue супакойліва-паблажлівае "a-ha". Прадбачлівае "A-ha".***

***

Падлеткі Мангэ Фурухольмэн і Пол Воктар-Савой не былі арыгінальнымі ў сваіх марах: зрабіцца зоркай у пік росквіту рок-культуры ў ціхенькай Нарвэгіі і перайначыць яе, маці-бацькаўшчыну, знутры - што магло быць больш рэвалюцыйным і жаданым для фэнаў Beatles і Doors! Зарганізаваўшы банду The bridges, якая хутка выдала першы і адзіны альбом Fakkeltog, хлопцы атрымалі добры кавалак фэнскай любові ад суайчыньнікаў, якія разгледзелі ў музыках рэінкарнаванага Морысана і мясцовага Манзарэка.

Осла, якое ў тыя часы шмат чым нагадвала Менск сёньняшні, было толькі стартавай пляцоўкай для Мангэ і Пола. Яны марылі пра Лёндан, радзіму рамантычнага пост-панку, які нарвэжцам падаўся самым блізкім і зразумелым. Зь дзесяцьцю штукамі кронаў яны рушылі ў Вялікую Брытанію, якая адназначна ўказала ім на дзьверы. Падумаўшы, што / хто іх магло б выратаваць, яны зьвярталіся да Мортана Харкета, на той час вядомага сваім выкшталцоным вакалам лідэра каманды Soldier blue. Бяз кронаў, але зь бясконцымі амбіцыямі нарвэжцы ўтрох едуць у Лёндан, дзе пасьля доўгіх пошукаў сустракаюцца з прадусарам Тэры Слэйтам - бацькам трыюмфу A-ha.

***

8-мільённы наклад Hunting Hihgt and Low толькі пацьвердзіў посьпех першага сынглу A-ha Take on Me, дакладней, ня першага, а другога ці трэцяга - разьлік Слэйтана быў зроблены на агульнавядомае intro клявішаў, якое было запісанае пасьля таго, як першыя вэрсіі Take on Me не пакацілі публіцы. Менавіта дзякуючы клявішам і наватарскаму відэа да кампазыцыі аднойчы раніцай Мангэ, Пол і Мортан прачнуліся "зоркамі".

"Так, аднойчы мы прачнуліся "зоркамі", але калі мы пачулі канчатковы варыянт альбому, то задалі адзін аднаму пытаньне - і гэта нашая праца? Гэта ня нашая музыка!", - казалі пазьней музыкі. Варта прызнаць, што сьвет крыху прыбалдзеў і ад саміх нарвэжцаў - занадта экзатычна выглядалі яны, спакойныя і трохі флегматычныя, на фоне канвульсуючага ў агоніі пост-панку. Самае вялікае захапленьне выклікаў Мортан - прыгожы, часам гожанькі сумнавокі юнак, які апроч рамантычнай зьнешнасьці меў голас, які не адзін мільён разоў (у адпаведнасьці са справаздачамі па продажах) выклікаў у слухачоў эфэкт "гусінай скуры".

A-ha стала адной зь першых ахвяраў зрашчэньня року і поп-музыкі, якое намецілася напачатку 80-х. Таму другі альбом - Scoundrel Days - стаўся відавочным адыходам ад цукровага рамантызму; музыка і тэксты гурта сталі больш цяжкімі і трагічнымі, што не перашкодзіла прадусарам і гуказапісвальнаму лэйблу ўзяць лішнія мільёны на продажах альбому, а A-ha - канчаткова ператварыцца ў поп-сымбаль моладзі.

Саўндтрэк гурта да чарговай сэрыі пра Джэймса Бонда ўсе назвалі "балдзёжным", а нарвэжцаў - пабрацімамі Флэмінга, за што "трэба было падняць кілішак на прэм'еры фільму", - настойваў прадусар. Мангэ, Пол і Мортан вырашаюць, што зь іх дастаткова, і едуць на запланаваныя гастролі ў Японію. Пасьля таго, як Тэры Слэйт спрадусаваў трэці альбом A-ha, стаўка ў якім была зробленая на той жа сыроп з патаснай рамантыкі і сьлёз тынэйджэраў-самазагубцаў, музыкі вырашаюць зьмяніць Тэры на іншага, каб паспрабаваць нарадзіцца другі раз.

***

East of the Sun, West of the Moon - чацьверты альбом A-ha - дазволіў зьмясьціць акцэнты з электра-попу на рокавасьць: Харкет крыху змадыфікаваў манэру сьпеву, Воктар падправіў гучаньне гітары, а Фурухольмэн натхніўся doors'аўскім Манзарэкам. Пэўная частка слухачоў адышла ад A-ha адразу па выхадзе альбому, але яшчэ большая колькасьць людзей была ўражаная тым, што грае нарвэжскае трыо. Вар'яцкі посьпех гурта ў Паўднёвай Амэрыцы, калі на пяці канцэртах пабывала блізу 20 мільёнаў чалавек, па вялікім рахунку нічога не даказваў і не абвяргаў: нарвэжцы сапраўды імкнуліся зьмяніць падыходы да музыкі, якія былі сфармаваныя ў іх цягам дзесяці год, каб даць сабе шанец на новую крыніцу сілаў, якой так і ня здолелі знайсьці. Агаломшаныя сонцам жыцьця бразыльцы, чылійцы, а разам зь імі і аргентынцы сталі той удзячнай публікай для скандынаўскіх дэкадэнтаў, якой даўно не было ў эстэцкай Эўропе.

У 1993 годзе стала зразумела, што A-ha вычарпалі сябе. Warner і MTV абвесьцілі камандзе ціхі байкот, у асноўным спасылаючыся на тое, што новы альбом (Memorial Beach) дзе-ніздзе... зьлізаны з U2, якія мелі аднаго й таго ж прадусара з нарвэжцамі. Быць падобнымі да нарвэжцаў пачалі лічыць кепскім тонам - A-ha вырашае сысьці са сцэны і даць сабе шанец пазьней...

***

Minor Earth, Major Sky быў запісаны цягам 1999, калі здавалася, што вярнуць старое надзвычай цяжка, але авантура ад усьведамленьня таго, што "мы можам зрабіць гэта", падганяла.

Пастаянныя адказы на адныя й тыя ж пытаньні прадстаўнікоў CMI і пэрыядычныя "фанэрныя" выступы на TV-станцыях адбіралі ўпэўненасьць ва ўласных сілах, але... Фурор быў нечаканым. "Калі ў спорт-холе ў Гамбургу, дзе адбываўся выступ у рамках туру-падтрымкі, мы сыходзілі са сцэны, то перажывалі такія пачуцьці, якія нельга апісаць". Упершыню за ўсе гады музыкі A-ha адчулі, што гралі не дзеля таго, каб задаволіць публіку, а з-за таго, што атрымлівалі неймавернае задавальненьне самі, - кажа Магнэ. - Гэта было фантастычна: увесь тур прайшоў у эйфарыі. Квіткі распрадаваліся штовечар, публіка любіла нас, нашыя старыя і новыя песьні. Апошняе для нас было надзвычай важна."

Наэлектрызаваны гук, нечаканыя аранжыроўкі і зварот да тых далёкіх тэмаў, якія засталіся яшчэ ў мінулым стагодзьдзі, здаецца, сапраўды адрадзілі A-ha. Газэты плявузгалі направа і налева новым вызначэньнем - "лебядзіная песьня пост-рамантыкаў", аж пакуль 4 сакавіка 2002 году ў афіцыйным прэс-рэлізе WEA Germany было пацьверджана, што напрыканцы красавіка выйдзе новы эпахальны альбом гурта - Lifelines.

"Зараз мы пачуваемся лепей, чым гэта было ў васьмідзясятых," - падзяліўся зь нямецкімі журналістамі напярэдадні выхаду альбому Пол Воктар.

***

***– Ваш новы альбом слухаецца нашмат больш лёгка, чым Minor Earth, Major Sky, ён не такі мэлянхалічны.***

***Пол:*** Гэта было прынцыповае рашэньне. Калі па характары песьня была занадта мэлянхалічнай, мы рабілі ўсё, каб прыйсьці да адваротнага выніку.

***Мортэн:*** Мы хацелі зрабіць такія песьні, якія задавальнялі б нашыя патрабаваньні, але каб і фэны маглі іх атаясамліваць з сабой.

***– Lifelines як вітраж, які складаецца з тысячы шкельцаў розных адценьняў і колераў, утвараючы выбітныя малюнак...***

***Пол:*** Мы працавалі над альбомам з многімі прадусарамі: Clive Langer і Alan Winstanley (яны працавалі з Madness, Morrissey), Stephen Hague (прадусаваў Blur, Pet Shop Boys) і з прадусарам Cardigans. Колькі год таму, калі мы прапанoўвалі нашыя дэма-запісы, ад іх часьцей за ўсё адмаўляліся: вы занадта папсовыя. Цяпер, калі мы прынасілі свае намёткі, нам прапаноўвалі свае паслугі вядомыя прадусары. Тым ня менш, не заўсёды мы атрымлівалі патрэбны вынік. Напрыклад, тры розныя прадусары браліся за Time & Again, але ў рэшце рэшт я сам спрадусаваў яе, узгадаўшы слаўныя гады альбому Hunting Hihgt and Low.

***– Як вы інтэрпрэтуеце назву альбому?***

***Пол:*** Lifelines абазначае шмат чаго, у тым ліку тое, што нашыя жыцьці пераплеценыя міжсобку. Таксама і альбом - у ім вы знойдзеце не адзін, а два-тры розныя альбомы.

***Магнэ:*** Мы сапраўды сварыліся наконт розных песень - матэрыялу было запісана на некалькі альбомаў, і гэта рабіў кожны з нас. Безумоўна шкада, што некаторыя мае песьні не ўвайшлі ў альбом, але гэтаксама лічаць і хлопцы. Такая барацьба часам даводзіць да вар'яцтва, але й заўжды прыносіць найлепшы вынік. Варта паслухаць Lifelines.


30 ЧЭРВЕНЯ 21:00
СТАДЫЁН "ДЫНАМА" г. МЕНСК
У РАМКАХ СУСЬВЕТНАГА ТУРНЭ
КАНЦЭРТ АДБУДЗЕЦЦА ПРЫ ЛЮБЫМ НАДВОР'І
ГУРТ a-ha
З ПРАГРАМАЙ "LIFELINES"
Тэлефоны для даведак у Менску: (017) 206-64-92, 227-87-16 (аўтаадказчык)

Коля і Сірожа

# БОЛЕЙ ЧЫМ РОК

## рок - мода. мода - рок. яйка ці курыца - хто ведае, што было раней?

рок - мода. мода - рок. яйка ці курыца - хто ведае, што было раней?

**Рок-зоркі небясьпечныя. Яны паза законам. Яны - частка альтэрнатыўнай культуры. Іх зьнешні выгляд - пагроза кансэрватыўным каштоўнасьцям. Давайце называць рэчы сваімі імёнамі: рок-музыкі - ня плюшавыя мядзьведзікі. І сьпяваюць яны не калыханкі. Яны - уладары розумаў. Ім пакланяюцца - як некалі паганскім багам, вярхоўным жрацам, шаманам. Імі захапляюцца. Іх баяцца. Іх пераймаюць. За імі гатовыя ісьці на край сьвету.**

Разам зь Beatles і Rolling Stones у моду ўвайшоў рок-стыль. Калматыя бунтары і інтэлігентныя хлопчыкі зь Ліверпуля апраналіся ў адных і тых жа крамах лёнданскага кварталу Чэлсі, але ні ў чым не былі падобныя адно да аднога. Рыклівыя Rolling Stones са зблытанымі валасамі ў аляпаватай вопратцы - злодзеі зь дзіцячай казкі. Рэспэктабэльныя малюткі зь Beatles у аднолькавых строях - цукровыя прынцы, што выпраменьваюць сьвятло і любоў. Кароткія стрыжкі і акуратныя вузенькія гарнітурчыкі для Beatles прыдумаў мэнэджэр гурта Брайан Эпстайн. Яму ж належыла бліскучая ідэя чатырохкроць паўтарыць гэты вобраз. Гэтак пачалася міталёгія Beatles. Эпстайн ужо тады, у сівыя шасьцідзясятыя цьвёрда ведаў - гэта зьява моды. І зрабіў усё, каб запэўніць у гэтым мільёны фанатаў. З тае пары рок-музыка і мода пастаянна пераследуюць адно аднога: то мода дыктуе музычныя тэндэнцыі, то рок заводзіць модны рынак.

На зьмену гарнітурчыкам ад Chanel у духу "сяброўкі Beatles" прыйшлі тыбэцкія званочкі, вэльвэтавыя нагавіцы-клёш, індзейскія раменьчыкі, якія сымбалізавалі волю і ўсеагульнае каханьне. Маці гіпі, культавая Джэніз Джоплін увасабляла Боскі пачатак на зямлі, чым даводзіла фэнаў да экстазу, а іхных бацькоў - да ціхіх гістэрык. Сьветам кіравалі Вудсток, марыхуана, пацыфізм, дзеці кветак, Piece of My Heart ды Ball and Chain і адвечнае пытаньне старэйшых: "Куды коціцца гэты сьвет?".

Да панку, а менавіта да школы, у якой некалі працавала Вівіен Вэствуд, якая кінула сваіх вучняў дзеля "вопытаў" у панк-лябараторыі Sex на Кінгз-роўд. Сьпявачка панк-гурта Pretenders Крысі Хайнд працавала ў яе прадавачкай і адначасова пазіравала для дызайнэраў-пачаткоўцаў у знакамітай лёнданскай школе Saint Martins. У краме Вэствуд яна прадавала перапэцканыя крывёю футболкі, парэзаныя на шматкі сукні. На сцэну Крысі Хайнд выходзіла зацягненая ў жаночы карсэт з мэталічнымі заклёпкамі ад Vivienne Westwood. Але хутка высьветлілася, што карсэты маюць звычку зношвацца, а бліскучыя агрэсіўныя заклёпкі - цьмецъ і ржавець.

Second Hand як мэтафара канца 80-х - пачатку 90-х нарадзіў бунт Курта Кабэйна. Просты хлопец зь Сіэтлу, апрануты ў нявызначанага колеру швэдар, зношаныя да дзірак джынсы і разадраныя не адной сотняй кілямэтраў кеды запратэставаў супраць тупога і жывёльнага камфорту. Ягоны дыск Nevermind адразу па выхадзе абвясьцілі "біблія гранжу", а Кабэйн умомант апынуўся знакамітым. Бедны Курт! У яго было так мала часу, каб прывыкнуць да ролі мэсіі. І вось ён сам, ягоная жонка - скандалістка Кортні Лав - і іх маленькая дачка Фрэнсіс аб'яўленыя супэрзоркамі гранжу. Вульгарныя сукенкі Кортні, якія яна купляла ў бліжэйшым супэрмаркеце, і танныя лялечныя ўпрыгожаньні ляглі ў аснову стылю Kinderwhore ("дзяўчынка-шлюха"). Гранж кіруе модай цягам амаль усіх 90-х: бясколерная вопратка, адсутнасьць золата і лягатыпаў, поўная адмова ад усялякага бляску. Але аднойчы гранж сыходзіць, і замест яго на сцэне зьяўляецца раскошны рэпэр Паф Дэдзі - у шыншылавым футры да пят, элегантным строі, пры залатым гадзіньніку і ў акулярах ад Versace.

Рок - гэта болей, чым проста модная плынь, і болей, чым звычайнае жыцьцё. Рок-зорка павінна шакаваць публіку. І вопратка - ейная галоўная зброя. Мэрылін Мэнсан - гэткі гермафрадыт з рысамі кінадзівы і сэрыйнага забойцы - зрабіўся злой пародыяй на эстэтычныя і культурныя каштоўнасьці амэрыканскага грамадзтва: чорныя, як воранава крыло, валасы, вычварны макіяж, рознакаліброўвыя лінзы, туга напяты карсэт, боты на высокай пляцформе, дзясятак пярсьцёнкаў з сатанінскай сымболікай. Куды там вэтэрану шоку - Дэвіду Боўі! У пачатку кар'еры яго не на жарт захапілі дзёрзкія экспэрымэнты. Да прыкладу, на прэс-канфэрэнцыі Боўі прыходзіў у сукенцы і заяўляў журналістам: "Я нашу сукенку... мужчынскую", - а пасьля са спакойнай душой сваволіў у ложку з Джагерам.

"Уплыў рок-музыкі на моду большы, чымся ўплыў Галівуду, - лічыць дызайнэр Антоніё Бэрардзі. - Мы любім кіно, але па жыцьці ідзем у рытме року". На стварэньне калекцыі восень-зіма 2001-2002 Бэрардзі натхніла нэа-рамантыка Прынца: "У ім заўсёды было аж задужа раскошы, андрагіннасьці й сэксуальнасьці".

Рок ці мода... Мода ці рок... Ёсьць выканаўцы, чый стыль ні на што не падобны. Самы яркі прыклад - Б'ёрк. "Яна сама па сабе", - лічыць Стывэн Джоўнз, знакаміты ангельскі капялюшнік. Марыян Пэйоскі прыдумаў знакаміты касьцюм лебедзя, у якім Б'ёрк шыкавала на "Оскары". "Б'ёрк робіць сваю музыку і сваю моду. Яна зь Ісьляндыі, і Эўропа з Амэрыкай ёй ня ўказ".

Для мільёнаў фанатаў рок-зоркі - калосы, магутныя супэр-людзі, боствы, надзеленыя казачнай сілай і ўладай. Але гэта ўсяго толькі ілюзія. На паверку рок-ідалы аказваюцца надзіва маленькімі і ранімымі: узяць хаця б мініятурную Дэбі Хары, лялечную Б'ёрк, казачнага эльфа Прынца, якога не ратуе ад натоўпу нават зьмітаваны ў выглядзе кольту "Магнум" мікрафон. Воламі яны робяцца на сцэне - магічнае пераўтварэньне зьдзяйсьняе музыка.

Сапраўдную рок-зорку цяжка ўявіць сівабародым дзядком, бо рок - гэта гімн фізічнай прыгажосьці, сіле, маладосьці й сэксу. Шматлікім музыкам не ўдалося аддзяліць сцэнічны вобраз ад рэальнага жыцьця. Дваццацісямігадовы парог стаўся трагічным для найлепшых зь іх. Джымі Хендрыкс, Джэніз Джоплін, Джым Морысан, Курт Кабэйн ня здолелі празь яго пераступіць. "Цыган", геніяльны гітарыст і фарсун-ваяка Джымі Хендрыкс напісаў у перадсьмяротнай запісцы: "Жыцьцё - толькі імгненьне. Каханьне - hi! З Богам!" Фанаты назаўсёды запомнілі яго зь гітарай, у свабоднай кашулі, салдацкім мундзіры і бандане а-ля Рэмба, што сьцягваў кучаравыя валасы. Джым Морысан памёр ад спыненьня сэрца. Ягоны вобраз сэксапільнага мачо - у чорных скураных нагавіцах, з аголеным торсам - прымушаў фанатак біцца ў гістэрыцы. Ад перадазіроўкі наркотыкаў пайшла з жыцьця Джэніз Джоплін. Ейны зьнешні выгляд быў падпарадкаваны беспарадку: безгустоўныя кофтачкі, бранзалеты, падрапанае футра ды бруднаватыя пёры. Так нам падавалася тады. А зараз гэта - модна!



# Сэргій Жадан

***Калі ў размовах з украінскімі калегамі я ўжываю слова "жаданьне", амаль усе яны ўсьміхаюцца. Ім чуецца там прозьвішча "Жадан". Вось дык папулярнасьць паэтычнай постаці ў наш час! Пагатоў, гаворка пра жывога й нават маладога аўтара. Вось жа, дазвольце пазнаёміць: Сэргій Жадан (Харкаў, Украіна).***

***Ёсьць дзьве Ўкраіны. Трапляючы ў Львоў, ты шчыра зайздросьціш яго жыхарам, а пачуўшы ўкраінскую ў вуснах бамжа альбо гопніка, разумееш: усё ОК, вернай дарогай ідзяцё, таварышы! Але ёсьць іншая Ўкраіна, якая ва ўсім нагадвае нашу бацькаўшчыну. І родны горад Жадана – фарпост гэтай другой Украіны. Побач з харкаўскім сталінскім ампірам наш, менскі, выглядае бяскрыўдным утульным ракако, а Палац Рэспублікі расчульвае сваёй мініятурнасьцю. Харкаўчане з гонарам паказваюць найбольшую ў Эўропе плошчу з найвелізарнейшым помнікам Леніну; агромністы канструктывісцкі хмарачос, аздоблены нотнымі знакамі, зь якіх складаецца "Інтэрнацыянал"; першы ў СССР Дом піянэраў і г.д.***

***Сэргій Жадан мог бы падсілкоўваць гэты мясцовы патрыятызм: найлепшы малады паэт (У)краіны – і ніяк ня менш! У горадзе, пазбаўленым амаль што ўсякіх праяваў нацыянальнага й паэтычнага, Жадан стварае ўражаньне ўсюдыіснасьці ўкраінскай паэзіі. Харкаўскія рок-гурты (яшчэ нядаўна расейскамоўныя) сёньня сьпяваюць песьні на жаданоўскія тэксты. Міжнародны фэстываль*** "Паэзія нумар адзін"***, які рыхтуе й праводзіць Жадан, зьбірае паэтаў далёка з-за межаў Украіны. (Летась мне пашчасьціла прыехаць на гэты фэстываль. Жадан падараваў удзельнікам афішу: дзьве распаленыя лесьбіянкі цалуюцца ўзасмок. Добра было пасьля паказваць афішу сваім хатнім, намагаючыся растлумачыць, чым займаўся на фэстывалі!)***

***"Адкуль ён, д'ябал яго бяры, узяўся, гэты літаратурны гаўрош, гэты герой пралетарскага маньерызму, дзіця індустрыяльных падзямельляў ды постсавецкага постпанку?.. – пытаецца жывы клясык украінскага постмадэрну Юры Андруховіч, і сам спрабуе адказаць, – Нехта, магчыма, зь неба тыцнуў пярстом кудысьці ў напрамку раённага цэнтру Старабельск і сказаў: "Ты, малы!". А далей усё адбывалася нібы й само сабою – харкаўскае сілавое поле, энэргетыка мёртвых паэтаў, блюзьнерства, каханьне, алькаголь, шуканьне дакладнай рыфмы. І – паэзія, гэтае прыгожае мігаваньне, гэтае жорсткае мужчынскае маўленьне без аніводнай саплі – вершы роспачы, што самі ёсьць радасьцю, вершы безнадзейнасьці, што самі ёсьць надзеяй".***

***Як кожны добры паэт, Жадан сумяшчае несумяшчальнае: жорсткі эпатаж (не памылюся, назваўшы яго сьцёбам) – і пранікнёны лірызм, выразную іронію – і гранічную шчырасьць, вышуканую мэтафорыку – і жаданьне называць рэчы сваімі імёнамі, філялягічную адукацыю – і пэрлы прастамоўя й моладзевага слэнгу. Яго фразэалягічныя кантамінацыі ўражваюць, як недазволеныя ўдары ў боксе. Мяркуйце самі,*** "у адну й тую самую рэчку снарад не трапляе двойчы"***. Альбо:*** "нумарацыя вагонаў гніе з галавы цягніка"***. Ягоныя мэтафары выбуханебясьпечныя. Але што яшчэ рабіць паэту, калі муза*** "чысьціць зубы, як табэльную зброю,/І засынае побач з табою"***?***

***Адны параўноўваюць Жадана з Рэмбо, акцэнтуючы раньнюю паэтычную сталасьць; іншыя, наадварот, абвінавачваюць "цяжкага падлетка ўкраінскай паэзіі" ў хуліганстве й інфантылізме. А Жадан спакойна робіць сваю справу. Выдае кніжку за кніжкаю. Стварае лібрэта да рок-опэры. Шмат перакладае. (Дарэчы, пляную й анталёгію маладой беларускай паэзіі.) Сам сабою згадваецца дыялёг з жаданоўскай мініятуры "Сьціплая прывабнасьць буржуазіі":***

- О'К', Serhiju. Жадаю ўсяго найлепшага.
- Дзякуй, у мяне ўжо ёсьць.

## intro

радасьць і алькагалізм на тваіх барыкадах
вецер у неба ўпаўзае чорнай вужакай
о дрэвы якія растуць проста зь нічога
о сонца вяртаньня што перакочваецца ўгары
пасьпяшае з усходу на захад
пакуль не сьцямнела вакол

тады ты вернесься ў цішу сваіх таполяў
у добрыя рукі госпада ўсіх мудакоў
які правядзе цябе цёмнаю ноччу ў бэзавых ценях
кватэрамі даўніх знаёмых
о шэры будынак смаўжа
за якім пачынаецца мора
о сонныя кабеты што расьсякаюць мяса
на ранішніх рынках
калі кавалкі ялавічыны цяжка падскокваюць
як баскетбольныя мячы

тады ты зойдзеш у дом і пазнаеш пах
і будзеш разрозьніваць пра сябе каб да канца разабрацца
дрэва й тканіна золата і цэмэнт
налева пасьля калідорам пасьля шчэ некалькі крокаў
фіранкі і зашчапкі кветкі і адкрывачкі
вазонікі зоркі каляровыя кафлі кандомы з аптэкі
пажоўклыя лекі паштоўкі на сьвяты атрамант
лёзы значкі фатастужкі патроны расталая памада
дрэвы заколкі стальныя пінцэты
фіксатары й бубны прылады мастацтва
і недзе на сподзе паміж флямайстрамі і квіткамі
між фінкамі і бабінамі недзе на самым сподзе
тое фота што ты шукаў
і што знойдзеш адразу
як толькі ты ўвойдзеш у гэты дом

дарэчы колькі табе шчэ засталося?





## ска кіеў*

наша краіна сонца й вечных дажджоў пагатоў
поўных красунь паўднёвых і паўночных кустоў
у жоўтагарачыя хусткі хутае рот гаваркі
маючы недзе ў кішэнях набытыя ўчора квіткі
як іх усіх зрывае хоць не прыйшлі халады
ты б не пасьпела за імі
ды табе і няма куды

каго не ламае клімат той вытрымае абы
пісаць у хатніх умовах гісторыю барацьбы
так што спрабуй разьбярыся між гэтых усіх харызм
адкуль у суграмадзян іх прыроджаны алькагалізм
дзёўбаныя азбоды з адмысловай хадой
з пабытовым сумленьнем зь вечаровай слатой
з ранішняй настальгіяй што разьядае пагляд
дзякуй богу праз пару тыдняў дажывем да каляд

вось напрыклад твой тата з адвечным сваім бухлом
з дэпрэсыўным мінулым і перабітым крылом
із стромнай сваёй натурай удачай сваёй цяжкой
і ўжо даўно й безнадзейна зьнесенаю башкой
ад апіятаў запальных і дурное травы
і я баюся яму ўжо проста не адшукаць галавы
бо зрэшты яму да сракі ягоная галава
так глядзі і дацягне сябе да раства

ці скажам твае суседзі што цэлы займаюць блёк
тужлівымі галасамі гнюсавяць свой любы фолк
аддаючы перавагу песенькам пра вайну
зь пераможным фіналам хіба ж я іх упікну
бо пераборлівы госпад пры раздачы даброт
хоць бы й такім дзіўнаватым чынам яны свой любяць народ

вось і ты зачыняеш за сабою акно
кідаеш у торбу рознае лайно
вымаеш зь лічыльніка медных жучкоў
далучаеш да сьпісу шчэ пару бычкоў
і бязважкі попел зьбіваючы на ляту
бацькаўшчына байбай кажаш у пустату

мова твая шчэ сьвеціцца зыркая нібы луска
жлукці сабе свой сухарык слухай сабе сваё ска
покуль твой калідорны табе ня ўчыніць шмон
бо надыдзе пахмельле якому ня скажаш вон
не сустрэнеш пры браме вытаптаўшы расу
ня скажаш добрага здароўя ці то слава ісу
будзеш глядзець праз дрэвы дзе на галіне птах
вось пратупалі скаўты з трафэямі ў руках
вось лінія абароны - ужо даўно нічыя
вось анёл праляцеў сойкай да ручая

калі ты нарэшце вернесься пад штандар свой стары
калі тваё сонца пойдзе на дно жабрамі дагары
ты азірнесься ўгору ня тоячы твару свайго
а там ужо пойдзе сьнег і ты адчуеш яго
дзесь на пачатку неба ён будзе сабе ісьці
ты першай яго пабачыш у лёгкім лёткім жыцьці
пабачыш як цемра ўверсе хавацьме яго дарма
сьнег падумаеш ты і пачнецца зіма

** "Ска" - гульня словаў: напрамак у музыцы, блізкі да рэгі, і, натуральна, абрэвіятура - "спартовы клюб арміі" - у Кіеве была такая футбольная каманда.*

## bodywork

прыходзіць апошняя серада перад вялікаднем
ісус з апосталамі адстойвае службу ў адным з
праваслаўных храмаў
пасьля разыходзяцца дамовіўшыся сустрэцца заўтра
ісус знаходзіць аліўкавы гай і пачынае маліцца

прыходзіць ноч зямля астывае
аліўкавае лісьце як зялёныя згусткі паветра вісьне над
галавою
ходзішчы пусьцеюць зьяўляецца апостал пётра
кладзецца на траву й загарнуўшыся ў коўдру спрабуе
заснуць

прыходзяць зоркі вецер паступова сьціхае
пётра ня можа заснуць і глядзіць у неба
начныя жывёліны палююць на нябачную здабычу
пётра засынаючы слухае голас настаўніка

зранку прыходзяць садоўнікі
павольна ідучы абменьваюцца навінамі
знаходзяць ісуса той палохаецца й жахаецца
што гэтая чара яго прамінула

## паўднёва-заходняя падарожная

*give the anarchist a cigarette*
*chumbawamba*

неба - колеру цёплага воску
цяжкую вільгаць цягне патроху
анархісту дай папіроску
выпраўляючыся ў дарогу

вось цягнікамі расклады вабяць
вось алькаголікаў дружныя пыскі
як зімаваць яму стромна мабыць
без каханьня і без прапіскі

можа і ён патроху прывыкне
не кульгацьме й ног не парэжа
пара зацяжак - і цалкам зьнікне
ў нетрах правабярэжжа

і прарастуць красамоўства кветкі
поштай і ў друку - добрыя людцы!
бо ўжо такія апошнія сьведкі
недаробленых рэвалюцый

неба набракне нібы рашчына
будзеш каціць нібы ў вырай нечы
й на кожным пэроне сваёй айчыны
адбівацца ад паражнечы

***Пераклад з украінскай і прадмова Андрэя Хадановіча***

# [ядНаньНе NETу]

}{демон

**Sup dude! Рады зноў цябе бачыць! Насамрэч, жыцьцё - супэр, асабліва калі ў цябе ёсьць комп, нэт і любая дзяўчына / хлопец (кожнаму сваё). І калі гучыць непараўнальная Dreams Of Sanity. Сёньняшняя наша гутарка - пра тое, без чаго цяжка ўявіць Сетку, пра тое, што аб'ядноўвае, радуе і расчароўвае, што дазваляе забывацца на адлегласьці. Я маю на ўвазе Імгненныя Паведамленьні (Instant Messeges - IM).**

## [Beginnig...]

"Маленькая ізраільская кампанія Mirabilis узяла Інтэрнэт штурмам," - гэтак пісала ў лютым 1998 году San Francisco Chronicle. Так яно і было. Праграма ICQ ад Mirabilis у першы ж год набрала 7,5 мільёнаў кліентаў, а яшчэ праз 5 год іх было больш за 100 мільёнаў! І з кожным днём гэтая лічба расьце, прычым зь неверагоднай хуткасьцю. Проста, даступна, вялізная колькасьць дадаткаў, паляпшэньняў - усё гэта абумовіла посьпех праграмы і чатырох яе стваральнікаў, нашых аднагодкаў з Тэль-Авіву. Запомні іхныя імёны - Арык Вардзі, Яйр Голдфінгер, Сэфі Вігісэр, Амнон Амір. Сябры яшчэ ў лістападзе 1996 году заснавалі кампанію Mirabilis і выпусьцілі невялічкую праграмку, што звалася ICQ (вымаўляецца як I seek you - я цябе шукаю). У нас яна атрымала ласкавую мянушку Аська.

## [1997–1998. Грандыёзны Пракол]

Ідэя стварэньня такой праграмы існавала даўно, і яе рэалізацыяй займалася кампанія Activerse. Натуральна, гэта мусіла быць не бясплатная праграма. Але пляны правалíліся - ICQ імкліва набірала абароты. Па хуткасьці распаўсюду яна абышла ўсе ўжо створаныя праграмы. І самае галоўнае - хлопцы раздавалі праграму задарма ўсім ахвочым. Да сярэдзіны 1997 г. у актыве Аські былі мільёны людзей - зьбольшага падлеткі, якія карысталіся ёю штодня. Праграмісты з Activerse мусілі адступіць, і яны вырашылі напісаць ICQ-сэрвэр, прызначаны толькі для карпаратыўных кліентаў.



"скрын" 2002-й аські

Але... Mirabilis ізноў была першай: яна выпусьціла такі сэрвэр ужо ў жніўні 97-га.



першая аська - 1.111

IM-рынак імкліва набіраў абароты. Нягледзячы на дзякую папулярнасьць, на пачатак 1998 году Аська мела ня самую вялікую базу карыстальнікаў. Чаму? America Online яшчэ ў 97-м заўважыла фэномэн IM, і, натуральна, вырашыла прыбраць яго да сваіх рук, таму ў траўні таго ж году выпусьціла праграмку AOL Instant Messenger (AIM). Праграма была інтэгравана ў Netscape Navigator, і паколькі кожны кліент кампаніі аўтаматычна рабіўся зарэгістраваным карыстальнікам AOL Instant Messenger, лічба была ўнушальнай - штосьць каля 10 мільёнаў. Але тая хуткасьць, якую набірала простая Аська, магнату і ня сьнілася... Было зразумела, што аўдыторыя ICQ вось-вось пераплюне AIM. І гэта пры тым, што Mirabilis ані капейкі не выдаткоўвала на рэкляму ды маркетынг (!).



аська-2001

У гэты ж час Microsoft, якая займалася знакамітай "вайной браўзэраў" зь Netskape, заўважыла, што ў яе з-пад носу цягнуць тлусты кавалак. Ці мог Більлі такое дапусьціць? Натуральна, софтавы гігант вырашыў выправіць становішча... праглынуўшы Mirabilis. (Зрэшты, не арыгінальна.)

Тым часам Mirabilis пасталела, ня толькі па ўзросьце стваральнікаў, а і па колькасьці супрацоўнікаў: на пачатак 1998 году іх было ўжо блізу 100 - зьбольшага, абслуга сэрвэраў, што знаходзіліся ў Тэль-Авіве ды Нью-Ёрку. Але па сваёй сутнасьці кампанія заставалася групай тынэйджэраў, якія ня мелі досьведу ў бізнэсе і таму зь лёгкасьцю пагадзіліся б на прапанову Microsoft. Дзякуй Богу, знайшліся людзі, здольныя абламаць Гейтса. Запомні гэтае імя - Йосі Вардзі (бацька Арыка Вардзі). Менавіта ён рашуча сказаў тоўстым






дзядзькам з Microsoft, што яны далёка не адзіныя ахвочыя прыкупіць ICQ.

І ў траўні 1998 ICQ перайшла да AOL, якая выклала ўчорашнім школярам, без усялякіх апцыёнаў дываррантаў, 287 мільёнаў жывых вечназялёных прэзыдэнтаў.




графік колькасьці аськіных юзэраў

Дазволь пацікавіцца: як ты лічыш, ці магла Microsoft прызнаць, што абламалася? Згодны. Натуральна, не. Яна адразу ж набыла сабе кампанію Flash Communications і, не марудзячы, заявіла, што зьбіраецца выпускаць MSN Messenger.

А тым часам Аська жыла сваім жыцьцём. Кліентаў у яе было шматкроць болей, чым у самой AOL. І яна ўвесь час была лідэрам на Download.com, найбуйнейшым сайце, дзе можна качаць праграмы. Для статыстыкі: ICQ качалі 1.000.000 разоў на тыдзень...

## [1999. Вайна Тытанаў]

Посьпех IM ня мог не зьвярнуць на сябе ўвагу астатніх тэлекамунікацыйных монстраў. Activerse, пра якую мы згадвалі напачатку, была купленая бостанскім інтэрнэт-канглямэратам CMGI, і апошняму ўдалася праз даволі невялікі час яе задушыць. Доўга распавядаць, як тое было, досыць словаў Джыма Даттана, супрацоўніка Activerse: "CMGI страўнікаў меў болей за карову, і ў кожным зь іх ён нас пераварваў"...

Тым часам у ліпені 99-га Microsoft выпусьціла MSN Messenger. AOL кінулася абараняць свае пазыцыі, і пачалася новая сусьветная вайна на тэлекамунікацыйным рынку. Самае першая вэрсія MSN Messenger'а мела прыемную асаблівасьць - карыстальнікі маглі абменьвацца паведамленьнямі ня толькі ў сетцы MSN, але і з кліентамі AOL. За лічаныя дні AOL перканфігуравала свае сэрвэры так, што гэтая халява накрылася. Більлі ня мог стрываць такога нахабства і загадаў аднавіць гэтую магчымасьць. За пару гадзінаў Microsoft удалося напісаць заплатку, якая выпраўляла недарэчнасьць. І так некалькі тыдняў - два гіганты тэлекамунікацыйнай індустрыі, да радасьці журналюг і не даючы спакою сваім карыстальнікам, мачылі адзін аднога. І ўсё ж Microsoft адступіла (а хутчэй узяла кароткі адпачынак - пра гэта далей): новая вэрсія Messenger'а, выпушчаная ў лістападзе '99, ужо не спрабавала далучацца да сеткі AOL. Але для апошняй прыгоды яшчэ далёка ня скончыліся. AT&T, Tribal Voice, Odigo і, урэшце, гіт сэзону Trillian працягваюць барацьбу за аб'яднаньне Сеціва. Самае прыкольнае ў тым, што AOL, набыўшы ICQ, так пакуль і не прыдумала, як на ёй зарабляць добрыя грошы.



бясплатны IRC-кліент

## [2002. Шоў Працягваецца]

На гэтым мы пераходзім у нашыя дні, ня менш цікавыя за тыя, пра якія я апавядаў вышэй. Microsoft і ня думае здавацца - яна спрабуе абысьці AOL мэтадамі, якія раней дазволілі ёй выцісь нуць Netscape - MSN Messenger, інтэграваны ў Windows XP, і ягоныя функцыянальныя магчымасьці ўвесь час пашыраюцца. Да прыкладу, новы фінт - відэаканфэрэнцыі. AOL у адказ прапанавала кліентам ICQ дасылаць мэсагі на мабілкі. Microsoft парыруе кантрактам з Vodafone - карыстальнікі мабілак маюць магчымасьць ня толькі прымаць мэсагі, але і адсылаць іх! А ў дадатак - чытаць мэйлы на Hotmail.



найбольш папулярны IRC-кліент

Наступны крок - за AOL. Чакаецца, што ў 2005 годзе ўжо 500 мільёнаў людзей будуць штодня слаць адно аднаму каля 3 мільярдаў мэсагаў. Натуральна, за магчымасьць кіраваць гэтай плыньню варта пазмагацца. Таму - чакайма новых сюрпрызаў, а пакуль будзем сядзець у звыклай ужо ICQ.

***P.S. на сёньняшні дзень Аськай карыстаецца блізу 176 мільёнаў чалавек.***

# CDчка



МИСТЕРИЯ ЗВУКА
Вул. Няміга, 12
тэл.289 39 30

З гэтым купонам зьніжка 7%
МИСТЕРИЯ ЗВУКА






**A-ha**
**Lifelines**
**[p] 2002 WEA**

**Наўрад ці гэта можна назваць пікам посьпеху.**
Больш пазытыўны і лёгкі, чым папярэдні альбом, Lifelines варта разглядаць як спробу рэінкарнацыі ранейшых A-ha ўзору 80-х . Відавочнае вяртаньне да ўжо вядомых матываў, выкарыстаньне апрабаваных часам хадоў - у існай сытуацыі гэта ня проста спроба наблізіцца да слухачоў, але й прыхаваная даніна модзе. Хаця Мангэ, Пол і Мортан і ня думаюць станавіцца ў авангард, закладнікам якога ў выніку можна лёгка стаць, - яны толькі падкрэсьліваюць і шліхуюць, удасканальваюць тое, што было зроблена да іх, выпрацоўваючы адно што новыя падыходы. У гэтым сэнсе нэрвозны Minor Earth - нечаканая рэвалюцыя, тады як Lifelines - яскрава эвалюцыйны альбом: яго цэласнасьць, лёгкая аднастайнасьць мэлёдыяў і аранжыровак, дэманстратыўная ленаватасьць падкрэсьліваюць, што A-ha вяртаецца да вытокаў. Дастаткова паслухаць загалоўныя кампазыцыі з гэтага і папярэдняга альбомаў, каб зразумець, якія яны розныя.
Мудрагелістая фігуратыўнасьць Lifelines, падобная да зімовых узораў на вакне, што заварожваюць сваёй халоднай красой і ўражальнасьцю, характэрная амаль для кожнай песьні, за выключэньнем хіба што больш агрэсіўных (з гледзішча кантэксту) Cannot Hide і Did Anyone Approach You? Дадайце да гэтага флегматычны экрсэсізм, вядомы па ранейшых рэлізах, - і дачакайцеся прыезду A-ha ў Менск.






**Stereophonics**
**Just enough education to perform**
**[p], [c] 2001 V2 Music Ltd.**

**Пэрформэры валійскага брыт-попу ў дзеяньні.**
"Валійскія прынцы" яўна ня ўпісваюцца ў прапанаваную братамі Гэлахер парадыгму сучаснай ангельскай музыкі - Кэлі Джонс з таварышамі аж занадта добра бачаць сваю ролю ў брыт-попе, таму іх погляд на гэтую зьяву моцна розьніцца ад астатніх суседзяў па Брытанскай імпэрыі.
Нестандартна цяжкая, з эфэктамі непрычасанасьці гітарная музыка, магутная і неўтаймаваная рытм-сэкцыя і прапалены вакал абсалютна не стыкуюцца са стэрэатыпным брыт-попам, але нельга не адзначыць, што Stereophonics дзе-нідзе пераймае амэрыканскую альтэрнатыўную традыцыю, што толькі дадае экзатычнасьці, але карэнна не адбіваецца на музыцы.
Пры жаданьні хваравітае ўяўленьне можа прапанаваць разглядаць J.E.E.P. як своеасаблівае люстра, у якім адбіліся, часам у адмыслова скажоным выглядзе, галоўныя стэрэатыпы ў адносінах да саміх Stereophonics: Vegas two time - гэта нібыта скандэнсаваныя вынікі негвалтоўнай амэрыканізацыі, трагічная Mr. Writer - гімн літаратурнай генічнасьці (некаторыя ўражаныя тэкстамі Джонса крытыкі прапануюць спыніцца на варыянце геніяльнасьці) гурта, Have a Nice Day - псэўда-непадобнасьці на ўзгаданы Oasis etc.






**Sheryl Crow**
**C'mon, c'mon**
**[p], [c] 2002 A&M Records, Inc.**

**Лепшы саўндтрэк да вашага лета.**
Чарговае мадыфікаваньне кантры, на гэты раз - у адпаведнасьці з патрабаваньнямі 2002 году, прайшло пасьпяхова. Дзякуючы першаму сынглу і кліпу на Soak up the sun, усім стала зразумела, што Sheryl Crow раз і назаўжды пакінула ў мінулым вобраз таленавітай правінцыялкі ў сініх замытых джынсах з гітарай у руках і душой наросхрыст. Зараз гэта гарачая ракавая бляндынка, якая пяе пра зразумелыя кожнаму чалавеку рэчы - каханьне, здраду і далей па тэксьце. Думаецца, цягам бліжэйшых двух-трох сынглаў грамадзкая думка асабліва ня зьменіцца, а далей...
Хочацца верыць, альбом будзе прэтэндаваць на "Грэмі", тым больш калі ўлічыць, што апошні студыйны альбом Sheryl выйшаў чатыры гады таму. Пры высоўваньні на нейкія намінацыі ў якасьці аргумэнтаў варта чакаць апэляваньняў да таго, што сьпявачка не адышла ад традыцыйнага, "старасьвецкага" року, хаця і гэта можа быць слабым суцяшэньнем: C'mon, c'mon занадта роўны, просталінейны, уплывы ў ім занадта чытабэльныя, каб ён выдзеліўся ў шэрагу на паліцы музычнай крамы для шараговага пакупніка. Але Steve McQueen, Soak up the sun - гэта якраз тое, дзеля чаго альбом варты ўвагі: лета, мора, пясок, сэрфінг... Хто болей?






**Pink**
**Missundaztood**
**[p], [c] 2001 Arista Records Inc.**

**Музычныя матэрыялізацыі гульняў гармонаў дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзростаў.**
Самыя ўдзячныя слухачы ацэняць, як Pink выдатна спраўляецца з роляй гераіні нашага часу, менш удзячныя адзначаць, што ў праекта зьмянілася стылістыка, зьмяніліся погляды на афармленьне матэрыялу, але нязьменнымі засталіся прэтэнзіі на арыгінальнасьць. З апошнімі Alicia Moore пакуль спраўляецца не без дапамогі моцнай каманды. У альбоме бралі ўдзел Alanis Morissette, а таксама Linda Perry (экс-4 Non Blonde), якая напісала блізу паловы матэрыялу. Улічыце бранябойны дуэт са Steven Tyler (Aerosmith) у патаснай Misery і не забудзьцеся на моцную артылерыю аранжыроўшчыкаў - Dallas Austin (Madonna, TLC) I Scoff Storch (The Roots, Dr. Dre). Рэцэпты аказаліся надзейнымі, і амэрыканскі пірог з начынкай, прыгатаванай на аснове R&B, hip-hop і іншага лёгказасваяльнага пяшчотнымі страўнікамі падлеткаў шырспажыву, дваццацідвухгадовая Alicia спрэзэнтавала досыць пасьпяхова. Часам Pink нават здольная паіранізаваць над самой сабой, што кампэнсуе якія заўгодна падлеткавыя гундошаньні кшталту "Дзе мае шаснаццаць год?" і энэргічныя падрыгваньні канечнасьцямі ў відэа.






**Moby**
**18**
**[p], [c] 2002 Mute Records**

**Moby ніяк не нацешыцца з Play.**
Публічнае выяўленьне боязі і страху падчас працы над "18" (а інакш - фактычная спроба загадзя самарэабілітавацца) сьвядома ці несьвядома прыдалося Moby самым дзейсным сродкам псыхалягічнай абароны. Вінаваціць яго ў гэтым прынамсі непрыстойна: пасьля ашаламляльнага посьпеху Play, які цягнуўся два гады, было няцяжка спрагназаваць зьніжэньне крэатыўнасьці музыкі. Ідэалісты чакалі ад чарговай плыты шэдэўраў, рэалісты - "сярэдняга", пераходнага альбому, але мала хто апрача самога Moby мог здагадвацца, што ўсё абернецца ТАК.
Калі загалоўная We are all made of stars пры першым праслухоўваньні выгодна сьвеціцца нейкай навіной, то пры далейшым азнаямленьні зразумела, што гэта было не сьвячэньне, а ўсяго толькі водбліскі ад скафандру Moby. Больш за палову матэрыялу "18" - як клёны з Play. У плыні наяўных рэміксаў дзівоснымі выглядаюць хіба што Jam for the ladies і Sunday. Падаецца, што музыка нават не абцяжарваўся аранжыроўкамі, папросту скапіяваўшы ў тэчку "18" добры тузін папярэдняга альбому, а таксама даўняга Everything is wrong.






**Любовь и Спорт**
**"Любовь и Спорт"**
**[c] 2002 Любовь и Спорт, [p] Vigma records**

**На добры лад вакалісту ЛИС лепей было б быць музычным аналітыкам, а так...**
Наяўнасьць фэномэну ЛИС і некаторых іншых безумоўна таленавітых, але незапатрабаваных менскіх камандаў наводзіць на сакрамэнтальнае "прагніла нешта ў дацкім каралеўстве". Новая генэрацыя, амбітная і самаўпэўненая, аказваецца здольнай толькі да дэкляраваньня сваёй выбітнасьці перад старой, але шляхам вопытаў высьвятляецца нешта зусім супрацьлеглае.
"Любовь и Спорт" выгодна розьніцца ад іншых рэлізаў апошняга часу па большасьці парамэтраў: музыка, лірыка, вакал і інш. Ясная справа, што непераадолены "комплекс дэма-запісу", калі асноўнымі робяцца ня якасьць, не манумэнтальнасьць кампазыцыі, а хіба толькі дэманстрацыя ідэі кампазыцыі, што абумоўлена мінімальнымі фінансавымі і хранамэтражнымі выдаткамі, - зганьбіў 60% альбому. Зрэшты, як і брыт-(поп, рок)-анскія ўплывы. Таму ў сытуацыі Muse-, Radiohead-, Борзовападобнасьці расчульвае тая шчырасьць, зь якой фронтмэн ЛИС даводзіць сваю контркультурнасьць. На жаль, апрыёрны мэйнстрым нават у балоцістых мясцовасьцях не выглядае арыгінальным і актуальным.




старонка зроблена пры дапамозе крамы

*Сяргей Сахараў*

# галерэя "terre des hommes"
# Сьцервы і анёлЫ


Дзяніс Хімарода. Мэлянхолія

**а**днойчы тры маладыя, а таму непрызнаныя геніі ад мастацтва - Алена Іванова, Тацяна Кандраценка і Дзяніс Хімарода - стаміліся ад постмадэрнай стракатасьці ды абсурду.

Крыху панастальгаваўшы па цэласнай яснасьці мастацкіх канцэпцыяў, паблукаўшы ў цьмяных лябірынтах ідэяў, яны зразумелі, што ўсё геніяльнае проста. Насамрэч, што можа быць больш звыклым і адначасова загадкава-звабным, чымся жаночае цела? Нават сёньня яны - акварэльныя, тэмпэрныя, алеевыя жанчыны, - не прыкладаючы ніякіх высілкаў, ня робячы ніякіх рухаў, умудраюцца авалодваць натоўпамі наведнікаў, якія ўпіваюцца вачыма, напрыклад, у абрысы імпрэсіяністычных ню, што плёскаюцца ў тазах, расчэсваюць валасы ці здымаюць падвязкі...

Хай узрадуюцца аматары мастацтва, для якіх няма большае асалоды, чымся таптаць адно аднаму ногі, выразна дыхаць у патыліцу тым, хто наперадзе, і раз за разам даставаць насоўку, каб змахнуць скупую сьлязіну ды неўпрыкмет працерці ўспатнелую лысіну...

8 чэрвеня ва ўтульнай галерэі "Terre des hommes" адчыніцца выстава пад сьціплай назвай - "Жанчыны". Мужчынская палова - рыхтуйцеся. Заплюшчыце вочы і ўявіце (больш прыгожая палова можа ў гэты час паназіраць за шчасьлівымі ўсьмешкамі сваіх абраньнікаў): французская галерэя, камэрная, можна нават сказаць, інтымная абстаноўка, няяркае сьвятло і... Яны. Мэлянхалічныя, экспрэсіўныя, цнатлівыя, сьцярвозныя, эратычныя... Пышнацелыя і мініятурныя, канкрэтныя і абстрактныя, апранутыя і распранутыя, яны часам шакіруюць, але заўсёды даюць волю вашай фантазіі. Яны маўклівыя і пакорлівыя. Яны не шпурнуць у вас талеркай, не дадуць чосу за нячышчаны абутак. Іхная адзіная зброя - матэрыял, колер, сьвятло, цень, лінія і форма. Гэта менш важка, чымся патэльня з прыгарэлай бульбай, што нечакана апускаецца вам на калені. Затое куды больш гігіенічна і, галоўнае, ненапружна для вас. Яны не прэтэндуюць на тое, каб вы займаліся імі з ранку да вечару. Яны не падціскаюць пакрыўджана вусны, калі вы не пазнаёмілі іх са сваім сябрам пры сустрэчы на вуліцы. Яны ніколі ня згубяць сваёй прыгажосьці, не пастарэюць, бо час не ўладарыць над імі. А захочацца валодаць імі заўсёды, удзень і ўначы - няма праблемаў. Заўсёды можна набыць адзін з упадабаных твораў і, павесіўшы ў сябе над ложам, штoранку прымаць энэргетычныя ванны.

Так што выкіньце з галавы ўсе свае праблемы - недапісаныя дысэртацыі ці непрададзеныя цыстэрны з нафтай - адключыце мабільнікі, расслабце гальштукі (ці што там у вас ёсьць) і зазірніце на Рэвалюцыйную,13. А вы, мілыя дамы, неўпрыкмет нявяжыцеся сваім каханым у спадарожніцы. Можа, адкрыеце для сябе штосьці новае - калі не ў жаночай анатоміі, дык у сваім абраньніку дакладна...

*Ларыса Кісель*
*Тацяна Тушына*


СТРАХАВАЯ КАМПАНІЯ
АльВеНа

| | |
|---|---|
| досьвед працы 10 год | больш за 20 відаў страхаваньня |
| сотні тысяч кліентаў | філіялы ў Менску і |
| спэцыялісты высокае клясы | абласьцях Беларусі |

Разам з Вамі мы клапоцімся
пра ваша здароўе, дом, маёмасьць, аўтамабіль
у Беларусі і за мяжой





АльВеНа - это реальная уверенность в настоящем.

| | |
|---|---|
| горад | Менск |
| вуліца, дом | Маякоўскага, 14 |
| тэлефон | (017) 210-28-36 |
| вуліца, дом | Ф.Скарыны, 164 |
| тэлефон | (017) 202-91-37 |
| e-mail | root@alvena.by |
| internet | http://www.alvena.by |

Ліц. №000132 ад 30.04.1999; №000527 ад 07.09.2001; №000548 ад 19.09.2001; №000422 ад 02.04.2001

## Каб падпісацца на "CD",

*трэба:*

– запоўніць абанэмэнт;

– паштовым пераводам пералічыць адпаведную суму на разьліковы рахунак рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка": 3012210040010 Сталічнае аддзяленьне АКБ "БелБізнэсБанк", г. Менск, код 112;

– запоўнены абанэмэнт разам з квітанцыяй аб паштовым пераводзе даслаць па пошце ў рэдакцыю: Менск-30, 220030, а/с 90.

*Умовы:*

– абанэмэнт трэба даслаць да 10-га любога месяца, каб атрымліваць часопіс з наступнага месяца;

– падпісацца можна на адзін, тры ці шэсьць месяцаў;

– кошт падпіскі на месяц – 400 рублёў.

Самые низкие тарифы в городе

НАСТРОЙСЯ НА

ВЕСТКОМ

ПЕЙДЖИНГОВАЯ КОМПАНИЯ

206 75 75

ТЕЛЕФОН ОПЕРАТОРА

РЭСПУБЛІКАНСКІ ЦЭНТАР КАНТАКТНАЙ КАРЭКЦЫІ ЗРОКУ

"БЕЛОФТООПТИКА"

КАНТАКТНЫЯ ЛІНЗЫ
АЙЧЫННЫЯ І ІМПАРТНЫЯ

СРОДКІ ДОГЛЯДУ ЗА ЛІНЗАМІ
ШЫРОКІ ВЫБАР

вул. Сурганава, 54 ..............232-51-94
пр. "Известий", 3 ............270-20-47
вул. Броўкі, 7......................232-25-27

СТУДЭНТАМ І ШКОЛЬНІКАМ – ЗЬНІЖКІ

КАНСУЛЬТАЦЫІ ПА ПРАФІЛАКТЫЦЫ ХВАРОБАЎ ВАЧЭЙ
231-48-22

Ліц. №16 ЛТ ад 24.12.1999 да 24.12.2004



ОЛИМП

Продается все, покупается лучшее!



ВЦ "ОЛИМП", г.Менск, вул.Я.Коласа,3 т.239-33-35